# АЛЕСЬ ДУДАР

Паэт, празаік, літаратурны крытык* Алесь Дудар (сапраўднае імя і прозвішча — Аляксандр Дайлідовіч) нарадзіўся 24 снежня 1904 г. (па старога стылю) у вёсцы Навасёлкі, непадалёку ад чыгуначнага прыпынку Пухавічы (былы Капаткевіцкі, а цяпер Петрыкаўскі раён Гомельскай вобласці) у сям'і беззямельнага селяніна. Як і больш за мільён† іншых беларускіх сем'яў, у час Першай сусветнай вайны Дайлідовічы знаходзіліся ў бежанстве. Выязджалі ў Тамбоўскую губерню (г.Казлоў‡, цяпер Мічурынск).

Увесну 1917 г. сям'я вярнулася ў Беларусь. Недзе ў гэты ж час Алесь знаёміцца з «беларускім друкаваным словам», захапляецца ім. Пачынае пісаць сам.

Пасля заканчэння (1921) сярэдняй школы (па іншых звестках — сямігодкі) будучы паэт уступае ў тэатральную трупу славутага Уладзіслава Галубка, праз якую таксама прайшлі і некаторыя іншыя вядомыя пісьменнікі: М.Зарэцкі, В.Сташэўскі[1], М.Чарот§.

У тым самым 1921 г. А.Дудар пачынае друкавацца. У «Савецкай Беларусі» з'яўляюцца яго «ўра-патрыятычныя» творы «Прэч з дарогі», «Зарубежным братам», «Гэй, да працы», «Я — мужык», «Новы шлях», «Брату беларусу», «Паўстаўшым» і іншыя.

Тут, магчыма, трэба згадзіцца з крытыкам С.Баркоўскім[2]: «Галоўнае месца ў ранніх вершах паэта займалі матывы рэвалюцыйнай барацьбы і сацыялістычнага будаўніцтва»**. Тое самае пісаў і Н.Гілевіч у манаграфіі «Акрыленая рэвалюцыяй»: «Паэтам ярка выражанага грамадзянскага тэмпераменту пачынаў свой творчы шлях А.Дудар»††. Гэтак жа пазней лічылі М.Ярош[3] і В.Бечык[4] (Беларуская савецкая лірыка. Мн., 1979): «Раннія вершы Дудара востра сучасныя па тэматыцы, бадзёрыя, жыццярадасныя па настроі, мажорныя па тоне, характарызуюць яго як тыповага «маладнякоўца», яны не вылучаюцца асаблівай арыгінальнасцю з боку мастацкай формы"‡‡. У часы хрушчоўскай адлігі і брэжнеўскага застою з ранніх вершаў паэта амаль усе даследчыкі і крытыкі вылучалі найперш: "Мы дзеці рэвалюцыі, // Кастрычніка сыны..." Але ўсе гэтыя

---

* Як крытык выступаў пад псеўданімам Тодар Глыбоцкі. Пасля выхаду ў 1996 г. кнігі Уладзіміра Міхнюка* «Арыштаваць у высылцы» стаў вядомы яшчэ адзін псеўданім пісьменніка — Арцём Яроцкі, але творы, якія былі б напісаны пад гэтым псеўданімам не знойдзены.

† Дадзеныя ўзяты з манаграфіі: Запруднік Я. Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. С. 75.

‡ інф. С.Баркоўскага; гл.: ЛіМ. 1957. 28 снеж.

§ інф. С.Шушкевіча; гл.: ЛіМ. 1979. 21 снеж.

** Баркоўскі С. Прадмова да кнігі А.Дудара «Выбраныя творы. Мн., 1959.

†† Гілевіч Н. Акрыленая рэвалюцыяй. Паэзія «Маладняка». Мн., 1962. С. 178.

‡‡ Ярош М. і Бечык В. Беларуская Савецкая лірыка. Мн., 1979.

сацыялістычна-патрыятычныя творы праверку часам, як бачым, не вытрымалі.

У канцы 1921 г. паэт стаў наведваць (найверагодней, яго туды прывёў той жа У.Галубок) знакамітую «Беларускую хатку», у якой, як потым пісаў сам А.Дудар, «не было ніводнага камсамольца ці камуніста, [нават проста] рабочай моладзі»[*]. Не дзіва, што пазней следчыя з «амерыканкі» назавуць “Беларускую хатку” «пунктом сосредоточения националистических сил…» У «хатцы» Алесь пазнаёміўся і з будучым сваім сааўтарам па некаторых творах Андрэем Александровічам. (У 1936 г. ў выданні БАН «Літаратура і мастацтва» Э.Галубок[5] — сын У.Галубка — яшчэ адзін здзек лёсу! — і Р.Ляпіч[6] у сумесным «аглядзе» напішуць: «аўтар артыкулу (А.Дудар пра А.Александровіча. — ***Л. М***.) ні словам не агаворвае і не паказвае на нацыяналістычны характар такіх арганізацый, як «Беларуская хатка» і розныя беларускія гурткі»[†]. «Хатку» ў канцы 1922 г. бальшавікі, вядома ж, прыкрылі.

У маі 1923 г. А.Дудар сведчыў: “рэдактар “Савецкай Беларусі” Маразоўскі[7] прапанаваў супрацоўніцтва. <…> Склад рэдакцыі ў той час быў такі: <…> Міхась Чарот, Янка Пашковіч[8], Леанід Савёнак, Павел Каравайчык, Змітрок Бядуля… Атмасфера ў рэдакцыі была мала падобна да атмасферы савецкай газеты…”[‡]

28 лістапада 1923 г. на ўзор літаратурных аб'яднанняў «Кузница»[§] і “Молодая гвардия”[**] (РСФСР), «Плуг»[††] і “Гарт” [‡‡] (УССР) у мінскім камсамольскім клубе “КІМ”[§§] А.Дудар разам з А.Александровічам, А.Бабарэкам, А.Вольным[9], Я.Пушчам і М.Чаротам стварылі першае Усебеларускае літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Маладняк». Аднак трэба адзначыць, што ідэя стварэння «Маладняка» належала ўсё ж А.Дудару, які яшчэ ўлетку пачаў рэдагаваць новы літаратурны часопіс «Маладняк» і думаў «узяцца за заснаванне арганізацыі маладых пісьменнікаў».

У 1924 г. А.Дудар спрабуе сябе (разам з сябрамі А.Александровічам і А.Вольным) у жанры прозы. На працягу трох месяцаў “Малады араты” друкуе іх сумесны раман “Ваўчаняты” (праз

---

[*] Міхнюк У. Арыштаваць у высылцы. Мн., 1996.

[†] БАН. Літаратура і мастацтва. Кніга 4—5. С. 96.

[‡] Міхнюк У. Арыштаваць у высылцы. Мн., 1996.

[§] Маскоўскае “пралетарскае” літаб’яднанне. Існавала ў 1920-х — першай палове 1930-х г. Выдавала шэраг часопісаў. Сярод сябраў А. Новікаў-Прыбой, Ф. Гладкоў і інш. Расфарміравана ў 1932.

[**] Расійскае літаб’яднанне. Аснавана ў 1922. Уваходзілі Аляксандр Безымянскі, Міхаіл Святлоў, Міхаіл Шолахаў, Сяргей Малахаў і інш.

[††] Украінскае літаб’яднанне. Заснавана ў першай палове 1920-х г.

[‡‡] Літаб’яднанне “Гарт” заснавана ў 1923 у Харкаве, Украіна, як Саюз пралетарскіх пісьменнікаў. Закрыта ў 1934.

[§§] Знаходзіўся на вуліцы Камсамольскай; у клубе размяшчаліся рэдакцыі шэрагу юнацкіх выданняў і драмгурток, якім кіраваў В.Галаўчынер.

год выйдзе асобнай кніжкай*). Рэцэнзіі† П.Галавача[10] на гэты твор у Беларусі не захавалася, а вось нехта, схаваўшыся за псеўданімам Engel (не раскрыты), выхад гэтага твора ў той час сустрэў, мусіць, правільна: "Трыумвіральнасць" працы кідаецца ў вочы дужа выразна... Таму раман не ўдаўся ды куды-куды слабей за індывідуальную творчасць кожнага аўтара..."‡ Але, магчыма, найбольш дакладна (і, здаецца, з гумарам) пра "Ваўчанят" сказаў у сваёй манаграфіі "Проза "Маладняка" Іван Чыгрын: "Герой "Ваўчанят", напрыклад, просты селянін, а як абыходзіцца з генералам Булак-Балаховічам! Як кот з мышшу: што хоча, тое і робіць з ім, як хоча, так і здзекваецца" §.

У ліст. 1924 г. А.Дудар едзе ў Віцебск, дзе разам з А.Сянкевічам[11] і Я.Мазуркевічам[12] засноўвае віцебскую філію «Маладняка» (потым да яе далучыцца і М.Каспяровіч). Адначасова ў філіі былі арганізаваны музычная секцыя, секцыя выяўленчага мастацтва і іншыя.

7 сак. 1925 г. А.Дудар пераязджае ў Полацк, дзе засноўвае Полацкую філію «Маладняка» (у ёй пачыналі творчы шлях П.Броўка[13], М.Шалай, Г.Брэская, А.Звонак, С.Хурсік[14]), рэдагуе газету «Полацкі араты», разам з сябрамі выступае ў сёлах. Пра адзін такі сельскі канцэрт «Магілёўскі селянін» пісаў: «Слухалі ўважліва творы «маладнякоўцаў» Паскрэбкі[15], Фаміна[16], Александровіча, Вольнага, Дудара»**.

У канцы лета А.Дудар вяртаецца ў Мінск. Набліжаўся двухгадовы юбілей «Маладняка», і на нарадзе цэнтральнага бюро аб'яднання ад 28 ліпеня 1925 г. было вырашана:

*"Склікаць маладнякоўскі з'езд, дапасаваць яго да гадавіны юбілею (28 лістапада) і назначыць на 25 лістапада[17].*

*Старшыня нарады Ул.Дубоўка.*

*Сакратар П.Трус††."*

Але за два тыдні да з'езда А.Дудар паспявае наведаць яшчэ і Магілёў, дзе, як пісаў той жа «Магілёўскі селянін», «адбылася першая акруговая канферэнцыя аб'яднання, <...> на якой маладыя паэты і пісьменнікі <...> сабраліся, каб абмяняцца між сабой вопытам працы, выявіць дасягненні, паслухаць больш адукаваных таварышаў...

* Александровіч А., Вольны А., Дудар А. Ваўчаняты. Раман беларускіх лясоў. Мн., 1925.
† Звязда. 1926. 1 студз.
‡ Полымя. 1925. № 7.
§ Чыгрын І. Проза "Маладняка". Мн., 1985. С. 31.
** Магілёўскі селянін. 1925. 5 мая.
†† Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968.

Асаблівае ўражанне пакінуў даклад (“Два гады “Маладняка”[*]. — ***Л. М.***) прадстаўніка Ц. Б. “Маладняка” т. А.Дудара”. Як успамінаў адзін з сяброў паэта, даволі часта менавіта пасля такіх выступленняў у прэзідыум прыходзілі запіскі з пытаннем: “Таварыш Дудар, дазвольце з вамі пазнаёміцца” [†].

25—29 ліст. 1925 г. адбыўся першы з’езд “Маладняка”, на якім было зазначана: у “Маладняк” уваходзяць 101 сябар, 89 кандыдатаў і 128 студыйцаў — 12 філій, уключаючы Маскоўскую (усяго ў 1925 г. у “Маладняку” было каля 500, а ў 1927 г. — каля 1000 чалавек[‡]). З’ездам закончыўся першы (так званы арганізацыйны. — ***Л. М.***) перыяд у жыцці “Маладняка”. Пасля з'езда ЦБ «Маладняка» прызначае А.Дудара кіраўніком мінскай філіі аб'яднання замест выключанага з ягоных сяброў за нацыянал-дэмакратызм Н.Чарнушэвіча[18].

Захаваліся ўспаміны А.Звонака пра дзейнасць «Маладняка» гэтага перыяду: *«Характэрная асаблівасць «Маладняка» — была яго масавасць, адсутнасць замкнутасці, чым пазней характарызаваліся такія літаратурныя аб'яднанні, як «Полымя»[§] і «Узвышша»[**], яго не толькі літаратурная, але і шырокая асветніцкая, папулярызатарская дзейнасць. Маладнякоўцы ўладкоўваліся ў тагачасных акруговых цэнтрах на сталую працу, узначальвалі так званыя акруговыя філіі «Маладняка», арганізоўвалі друкаваныя выданні (часопісы, альманахі, зборнікі). Прымалі ў сябры «Маладняка»… Хлапец* (А.Дудар. — ***Л. М.***) *падзывае да сябе і гаворыць: “Ну, паэт, віншую. А вершы свае давай мне, я выберу сёе-тое ў часопіс*” [††].

У 1925 г. выйшлі адразу два зборнікі вершаў А.Дудара: «Беларусь бунтарская» і «Сонечнымі сцежкамі», абодва ў кніжніцы (бібліятэчцы) «Маладняка».

---

[*] Магілёўскі селянін. 1925. 29 ліст.
[†] Літаратурны дадатак да газ. “Савецкая Беларусь”. 1928. № 10.
[‡] Макарэвіч А. Сатыра Кандрата Крапівы. Мн., 1962. С. 8.
[§] Аб’яднанне “Полымя” створана ў снеж. 1927 г. У аб’яднанне разам са старэйшымі беларускімі пісьменнікамі ўваходзілі і былыя кіраўнікі «Маладняка»: Я.Колас, Я.Купала, А.Александровіч, А.Вольны, У.Галубок, Ц.Гартны, М.Грамыка, А.Гурло, А.Дудар, М.Зарэцкі, Я.Нёманскі, М.Піятуховіч, А.Сянкевіч, В.Сташэўскі, М.Чарот.
[**] Аб’яднанне (або, як яго называлі самі узвышэнцы, згуртаванне) “Узвышша” было створана ў 1926 г. Назва была ўзята з радкоў У.Дубоўкі:
*Прыспусціся ў даліну з узвышша,*
*каб узняцца ізноў і вышэй.*
(Гл. арт. Антона Адамовіча «Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша», які быў надрукаваны ў 1958 г. у кнізе № 8 «Беларускага зборніка», што выдаваўся ў Мюнхене.)
У згуртаванне ўваходзілі: Кузьма Чорны, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Лукаш Калюга, Андрэй Мрый, Васіль Шашалевіч, Антон Адамовіч, Фелікс Купцэвіч, Сяргей Дарожны, Адам Бабарэка, Уладзімір Жылка, Тодар Кляшторны, Максім Лужанін, Пётр Глебка і, верагодна, Аляксей Траецкі (яго біяграфію гл. у зносках пасля біяграфіі Н. Чарнышэвіча), Сяргей Русаковіч. Узвышэнцам сябе лічыў і паэт Уладзімір Хадыка. Згуртаванне праіснавала да 1931 г.
[††] З асабістага архіва аўтара.

Першая кніжка, як здаецца цяпер, найперш цікавая толькі вершам «Беларусь»:

*Край шумлівых лясоў… Край дрымотных балот…*
*Край, адвечнаю крыўдай замучаны…*
*Дзе над доляй людской плакаў сумны чарот*
*Ды слязіліся вербы плакучыя…*

*Уладаў, хто хацеў, гэтай сумнай зямлёй.*
*Ўсе суседзі над ёй гаспадарылі –*
*То спраўляў здзек і гвалт пан варшаўскі над ёй,*
*То таптталі боты баярына…*

*І ляцелі вякі… І гаротны народ*
*Вечна гнуўся пад цяжкай нядоляю…*
*І марнеў сумны край, — край лясоў і балот…*
*Люд гібеў у нудзе беспатольнай…*

На другую кніжку адгукнуліся брат паэта Я.Пушчы, вядомы «ўзвышэнскі» крытык Я.Плашчынскі[19]: «Алесь Дудар бясспрэчна таленавіты паэт, і беларускае прыгожае пісьменства чакае ад яго каштоўных скарбаў. Ёсць надзея, што ён пры сваім творчым запале іх дасць…»[*], а таксама нехта Тэм: «Усе песні паэта перавіты мяккім, задушэўным лірызмам. У яго амаль што няма крыкліва-плакатных слоў, лозунгавых выкрыкаў. — Аб рэвалюцыі, аб барацьбе суровай ён умее сказаць проста, але з вялікім захапляючым пачуццём»[†]. Адзначым, што сярод герояў зборніка мы сустрэнем Ф.Скарыну[20] і У.Леніна, К.Каліноўскага[21] і «камсамолку» з «селькорам» і «жалезным ваўком». Наогул «нармальны» (зноў жа з погляду сённяшняга дня) для таго часу “вінегрэт”: апяваць разам першадрукара і стваральніка першай у свеце дзяржавы-канцлагера; змагара за незалежнасць і свабоду сваёй Бацькаўшчыны і душыцеля гэтай свабоды — «жалезнага ваўка». Эпіграфамі да розных раздзелаў кніжкі сталі словы М.Багдановіча[22], У.Жылкі і А.Гурло[23]. А пра «больш значных» (як тады лічылі) класікаў ёсць такія радкі:

*Бач, як заляскала вуліца,*
*Заляскала конскім топатам.*

[*] Маладняк. 1926. № 1. С. 114—116.
[†] Чырвоная Полаччына. 1926. 1 мая.

*Ні Купала, ні Колас, ні Бядуля*
*Цябе не масцілі строфамі.*

Сапраўды, проста і «з пачуццём...», але ж такі быў час...

5—6 ліп. 1926 г. адбыўся пленум Цэнтральнага Бюро «Маладняка» з удзелам кіраўнікоў філій. Часопіс аб'яднання ў жнівеньскім нумары пісаў: «Пленум канстатаваў значны рост «Маладняка», як якасны, так і колькасны з часу 1-га з'езда і даў шмат каштоўных указанняў для будучай працы»[*]. У склад зноў абранага прэзідыуму ЦБ аб'яднання разам з «найперапаважаным роданачальнікам", як называлі А.Дудара некаторыя пачынальнікі, увайшлі М.Чарот, М.Зарэцкі, М.Каспяровіч, М.Аляхновіч.

Восенню таго ж года з друку выходзіць зборнік вершаў А.Дудара «І залацісцей і сталёвей» (на вокладцы кніжкі былі намаляваны профілі дзвюх дзяўчат, што лічылася значным адступленнем ад маралі) і (асобным выданнем) паэма «Шанхайскі шоўк» (напісана яшчэ ў чэрвені мінулага года ў Полацку), у якой «камуніст кітаец разам са сваім сябрам, англійскім салдатам, гіне за свабоду свайго народа»[†].

Крытык С.Баркоўскі лічыў, што ў зборніку «І залацісцей і сталёвей» «адчуваецца некрытычнае перайманне матываў паэзіі С.Ясеніна...»[‡]. Відавочна, аўтар прадмовы меў на ўвазе верш «Залатавалосай» (прысвечаны Н.Вішнеўскай) і іншыя:

*П'яны вечар і п'яны дзень,*
*Толькі сэрца шалёна стукоча.*
*Ў гэты вечар глядзець і глядзець*
*Ў васількова-глыбокія вочы.*

*Сэрцу воля і думкам палон:*
*На хвіліну — жыць і не думаць.*
*Чырвань золата ў песні ўпляло*
*Новы сказ пра цябе, маладую.*

*Пацалунак гарачы... І раптам*
*Нечаканы, нясмелы адказ...*
*Наша шчасце і наша свята*
*Ў нашай волі і ў нашых руках...*

[*] Маладняк. 1926. № 5/14.
[†] Смальянава Л. Шляхі паэтычнага эпасу. Мн., 1977. С. 32—33.
[‡] Баркоўскі С. Прадмова да кнігі А.Дудара «Выбраныя творы». Мн., 1959.

Больш агульна пра ўпадніцкія матывы вершаў зборніка пісаў Н.Сямёнаў (Н. Гілевіч): «У зборніку змешчана нямала вершаў, прасякнутых настроем песімізму»[*] Ва ўжо згаданай манаграфіі з ім згаджаюцца М.Ярош і В.Бечык: «І залацісцей і сталёвей» — вынік нездаровых захапленняў, упадніцка-багемных настрояў... Пачынаюць гучаць матывы тугі і роспачы»[†].

Нягледзячы на «ўпадніцка-багемныя настроі», А.Дудар працягвае актыўна пісаць, заканчвае паэму «Паланянка»[‡], падрыхтоўвае да друку[§] зборнік вершаў «Вежа» (тут, безумоўна, вылучаецца верш «Полацак»: «Бандыты Захаду, цары Усходу // Тваіх грудзей гранілі бронь...»), зборнік апавяданняў пра «доблесных чырвонаармейцаў» «Марсэльеза»[**], а «літаратурная камісія беларускіх эсперантыстаў перакладае ягоныя творы на эсперанта»[††].

Вынікі 1926 г. (даволі нечаканыя, калі ўспомніць «І залацісцей...») за Алеся Дудара падвяла «Звязда»: «Ён ідзе «сонечнымі сцежкамі» і «сінімі майскімі песнямі» гартуе маладую культуру»[‡‡].

24 лютага — 3 сакавіка 1927 г. адбываецца чарговая перарэгістрацыя “Маладняка”. Старшынёй аб’яднання зноў выбіраецца М.Чарот, сакратаром В.Сташэўскі. Сярод 60 сябраў бачым і прозвішча А.Дудара, але ўжо не сярод кіраўнікоў.

4 мая 1927 г. на пасяджэнні ЦБ “Маладняк” было вырашана «камандзіраваць на ўкраінскі з’езд пісьменнікаў “Плуг” А.Александровіча і А. Дудара”. Неўзабаве паэты наведалі сваіх украінскіх калег, пазнаёміліся з У. Сасюрам[24], А. Вішнем[25], А. Дасвітным[26]... Праз дзесяць гадоў пра гэта “нацдэмаўскае аб’яднанне ворагаў народа” ўспомняць энкавэдысты. І стануць “выяўленыя контррэвалюцыйныя” арганізацыі “міжнароднымі”...

Хоць А.Дудар у канцы 1926 г. пісаў у сваёй аўтабіяграфіі, што “пачаў вучыцца, але кінуў — не было часу” [§§], вучобу неўзабаве прыйшлося працягваць. Як сведчыў С.Баркоўскі, “у 1927 годзе А.Дудар паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педфака БДУ” [***]. Ды і як інакш? Павышэнне паэтычнага узроўню не ў апошнюю чаргу залежыць і ад узроўню літаратурных ведаў. Таму не

[*] Полымя. 1964. № 7. С. 182.
[†] Ярош М. і Бечык В. Беларуская савецкая лірыка. Мн., 1979.
[‡] Гл.: Маладняк. 1926. № 9. Раздзел «Хроніка».
[§] Гл.: Маладняк. 1927. №№ 1, 2.
[**] Дудар А. Марсэльеза. Мн., 1927.
[††] Маладняк. 1926. №7—8.
[‡‡] Звязда. 1926. 7 снеж.
[§§] Міхнюк У. Арыштавац у высылцы. Мн., 1996.
[***] З асабістага архіва аўтара.

выклікае здзіўленне паведамленне ў “Маладняку”, што «Беларускі дзяржаўны універсітэт з'яўляецца ў сучасны момант сапраўдным пісьменніцкім асяродкам на Беларусі. Значная частка беларускіх пісьменнікаў і паэтаў вучыцца зараз на лінгвістычна-літаратурным аддзяленні. Штодня ў памяшканнях універсітэта можна сустрэць Крапіву[27], Александровіча, В.Каваля, С.Хурсіка, С.Фаміна, А.Дудара, А.Якімовіча[28], І.Барашку[29]”.

З 1927 г. А.Дудар пачынае выступаць у друку і як крытык. Неўзабаве выходзіць зборнік яго крытычных і літаратуразнаўчых нарысаў «Пра нашы літаратурныя справы». Але «як крытык А.Дудар вызначаўся супярэчлівай пазіцыяй»[*] (І.Багдановіч[30]); з публікацый на гэтую тэму раім пазнаёміцца з кнігай Р.Платонава[31] «Лёсы»[†], а таксама з іншымі працамі даследчыка, да прыкладу, з яго артыкулам у “ЛіМе” пра наведванне А.Дударом Сібіры. Таксама лічу неабходным прывесці тут наступны ўспамін Сяргея Грахоўскага: *“На пачатку 1928 года мая стрыечная сястра Маруся павезла ў Мінск двум братам падмацунак з каляднай свежыны. Старэйшы ўжо быў доктарам, а другі, Янка Бобрык — студэнтам універсітэта. Я нецярпліва чакаў Марусю са сталіцы: хацелася даведацца пра Янкавых сяброў-паэтаў, пра кіпучае, як я чуў, літаратурнае жыццё сталіцы: у друку ішлі спрэчкі паміж "Маладняком" і "Узвышшам", Тодар Глыбоцкі бэсціў Уладзіміра Дубоўку»*[‡].



Злева направа: Алесь Дудар, Валеры Маракоў, Мікола Ніканові ч.

[*] *БП*, т. 2.
[†] Платонаў Р. Лёсы. 1998. С. 110.
[‡] З асабістага архіва аўтара.

Не толькі У.Дубоўку (які «мала лічыцца са структурай сказа і заходзіць у ламанні яго вельмі далёка…») бэсціў Глыбоцкі-Дудар. Дасталося (у нарысах «Пра нашы літаратурныя справы…») і А.Бабарэку («дамарошчаны крытык імпрэсіяністы…»), і З.Бядулю («гэты паэта на працягу 15 год сваёй працы столькі блытаўся паміж рознымі стылямі, станамі і напрамкамі, што наўрад ці можна спадзявацца, што ён вызначыць, нарэшце, сваё сталае месца ў літаратуры…»), і Я.Пушчу («замест мастацкіх твораў пачаў падносіць чытачу няўдалыя практыкаванні, пад якімі, можа, пасароміліся б падпісацца многія з тых, чыя творчасць шчодра камплектуе рэдакцыйныя кошыкі… Для рабочых, для сялян, для савецкай інтэлігенцыі Пушча памёр»), і У.Жылку («з законамі мовы Жылка лічыцца мала, асабліва там, дзе яны спатыкаюцца з законамі версіфікацыі: тады Жылка калечыць слова, пераносіць націск, расцягвае ці сціскае слова; адным словам, як некалі пісаў Бядуля, бацьку роднага дзеля рыфмы зарэзаць гатоў… Агульнае ўражанне ад зборніка Жылкі («З палёў заходняй Беларусі». — ***Л. М***.) такое: уявіце сабе, што глухі музыка на паламанай скрыпцы на працягу гадзіны (колькі трэба, каб прачытаць зборнік) цягне бясконца верхняе ля; пасля гэтага доўга стаіць у вушах не зусім прыемны гук…»). Але чамусьці «пашанцавала» А.Александровічу («за 5—6 гадоў сваёй літаратурнай працы ён здолеў высунуцца ў першыя шэрагі беларускіх пісьменнікаў»), А.Мрыю («даволі гладкім <…> з’яўляецца апавяданне Мрыя “Калектыў Яўмена”), В.Маракову (“разбойны напад на першых жа кроках творчасці Маракова аглушыў яго і яшчэ далей загнаў у тыя ж нетры (тугі і роспачы. — ***Л. М***.), з якіх яго думалі выгнаць сваімі крыкамі “крытыкі”).

11 кастр. 1927 г. “Віцебскі пралетары” друкуе артыкул А.Дудара “Больш увагі да пісьменніка” (наогул гэты нумар газеты быў удалы: сярод аўтараў бачым прозвішча Леаніда Свена (Свэна)[32], Аляксандра Цвікевіча…). У артыкуле аўтар прыводзіць шмат вельмі цікавых лічбаў. Некаторыя з іх хацелася б нагадаць: “У Маскве налічваецца 2069 чалавек, якія жывуць выключна літаратурнай працай… (у Беларусі не больш дзесятка. — ***Л. М***.) [Беларускія] пісьменнікі, якія ўжо ні дзень і ні два працуюць на літаратурнай ніве, прымушаны здавальняцца стаўкаю ў 10—20 капеек за радок… Для параўнання скажам, што маскоўскія і ленінградскія выданні аплачываюць вершы ў сярэднім 1 руб. за радок”*.

* Віцебскі пралетары. 1927. 11 кастр.

Праз два тыдні, 30 кастр. 1927 г., у “Савецкай Беларусі” з А.Дударом згодзіцца і Цішка Гартны: “Дудар правільна зрабіў, падняўшы гэтыя пытанні... Маўчанка, якая цягнулася на працягу некалькіх гадоў, своечасова парушана...”* Як потым высветлілася, не своечасова...

У снеж. 1927 г. з “Маладняка” выйшлі яго заснавальнікі А.Александровіч, А.Вольны, М.Зарэцкі, М.Чарот і А.Дудар. Праз месяц яны ўступілі ў заснаванае па ініцыятыве Цішкі Гартнага вакол час. «Полымя» новае літаб'яднанне, прыняўшае на сябе назву часопіса. У аб'яднанне таксама ўвайшлі†: Ц.Гартны, М.Грамыка, У.Галубок, А.Гурло, А.Дудар, М.Зарэцкі, А.Александровіч (ненадоўга), М.Чарот, А.Вольны, Я.Купала, Я.Колас, Я.Нёманскі, А.Ляжневіч, М.Піятуховіч, В.Сташэўскі.

5 ліст. 1928 г. А.Дудар удзельнічае ў вялікім літаратурна-музычным вечары, які быў наладжаны шэфтаварыствам Працасветы і адбыўся ў Доме культуры ў Мінску. У літаратурнай частцы вечара «прымалі ўдзел Я.Купала, Я.Колас, М.Чарот (чытаў урыўкі з уступу да новай паэмы «Асінаград»), П.Трус, А.Дудар, А.Гурло, М.Хведаровіч, А.Александровіч, М.Грамыка і З.Бядуля. Уступнае слова аб росквіце беларускай літаратуры сказаў на вечары Зм.Жылуновіч (Ц.Гартны)» (Маладняк. 1928. № 11). Не ведалі ўдзельнікі «вялікага вечара», што «росквіт беларускай літаратуры» праз нядоўгі час зменіцца вынішчэннем усяго беларускага наогул...

У тым жа годзе (па іншых звестках — раней) «малады, круглатвары, з усмешліва-цёплым позіркам, высокі і зграбны Алесь Дудар»‡ (гэткім яго ўспамінаў Алесь Звонак) ажаніўся (пасля трох гадоў знаёмства) з вучаніцай «царскасельскага ліцэя» — Мінскага Белпедтэхнікума паэткай Наталляй Вішнеўскай.

У пачатку снеж. 1928 г. «Савецкая Беларусь» друкуе гэтак званы «ілжывасенсацыйны»§ «Ліст трох», у якім студэнты БДУ А.Александровіч, А.Дайлідовіч (Дудар) і М.Зарэцкі (Касянкоў) «даводзілі да ведама грамадскасці рэспублікі факты <...> зневажальных адносінаў ва універсітэце да пісьменнікаў-беларусаў і <...> фармальнага падыходу да ажыццяўлення праграмы беларусізацыі”. Праз паўгода ў дакладзе ЦКК КП(б)Б “Ліст трох” быў аднесены да “прамых нацыяналістычных выхадак контррэвалюцыйнага характару” (Р.Платонаў). Александровіч і

---

* Савецкая Беларусь. 1927. 30 кастр.
† гл.: Маладняк. 1928. № 2.
‡ З успамінаў А.Звонака.
§ Перкін Н. С. Шляхі развіцця Беларускай савецкай літаратуры 20-30 гадоў. Мн., 1960. С.180.

Зарэцкі атрымліваюць суровыя вымовы па партыйнай лініі, а Дудар будзе адпраўлены ў трохгадовую высылку ў Смаленск (29 сак. 1929 г.). "Дапамог" яму ў гэтым і яго нацдэмаўскі верш "Пасеклі край наш папалам", які хадзіў па руках і ў якім ёсць такія радкі:

*Пасеклі край наш папалам,*
*Каб панскай вытаргаваць ласкі.*
*Вось гэта — вам,*
*А гэта нам,*
*Няма сумлення ў душах рабскіх...*

*Плююць на сонца і на дзень,*
*О, дух наш вольны, дзе ты, дзе ты?*
*Ім мураўёўскі б гальштук уздзець,*
*Нашчадкам мураўёўскім гэтым...*

На жыццё А.Дудара ў высылцы praліваецца больш святла ва ўжо згаданай кнізе У.Міхнюка:

*"У пачатку ліпеня 1929 года* (піша А.Дудар. — ***Л. М***.) *да мяне раптоўна прыехаў Валеры Маракоў, былы «маладняковец», які быў сакратаром часопіса «Маладняк», калі я яго рэдагаваў. У літаратурных адносінах Маракоў з'яўляецца маім выхаванцам: я калісьці правіў яго першы зборнік... Да маёй жа палітычнай дзейнасці ён не меў ніякага дачынення і не мог мець, бо я лічыў яго занадта маладым для таго, каб уводзіць у круг сваіх поглядаў і спраў. Я, безумоўна, ягонаму прыезду быў дужа рады. Маракоў прывёз з сабой рэшткі таго спачування мне, якія акружалі мяне ў апошнія дні ў Мінску. Ён гаварыў, што пісьменніцкая моладзь у Мінску дужа мне спачувае, што да мяне збіраюцца яшчэ і другія маладнякоўцы. Я, застаючыся ў перакананні, што ў маёй высылцы вінна не столькі мая дзейнасць, колькі чыясьці палітыка, зусім верыў яму і не шкадаваў асабліва лаянкі супроць "русацяпаў", не называючы, праўда, імён. Прачытаў Маракову адрыўкі з свайго верша* ("Пасеклі край наш папалам". — ***Л. М***.), *якія помніў. Развіталіся мы захопленыя адзін адным і цалкам задаволеныя."**

С.Грахоўскі адзначаў, што «ў Смаленску <у той час знаходзілася> група пісьменнікаў: Ісакоўскі[33], малады Твардоўскі[34], Дзмітрый Осін[35], Мікалай Рыленкаў[36], якія акружылі А.Дудара

* Міхнюк У. Арыштаваць у высылцы. Мн., 1996.

ўвагай»[*]. Але ў Мінску была «троху» іншая сітуацыя. Прывядзем вытрымку з рэзалюцыі пленума БелАПП: «Узмацніць ідэалагічную барацьбу супраць правае небяспекі ў беларускай літаратуры, якая прасочваецца ў паасобных творах паасобных пісьменнікаў і ў некаторых публіцыстычных выступленнях («Лісты да сабакі» Я.Пушчы, «Госці» М.Лужаніна, «Вецер з Усходу» А.Дудара, «Зямля» К.Чорнага, артыкулы З.Жылуновіча (Ц.Гартнага), Т.Глыбоцкага (А.Дудара) і інш.» [†]

Пасля пленума пайшлі разгромныя публікацыі. Вось урывак з артыкула Б.Стасевіча[37] "Аб задачах беларускай мастацкай літаратуры": "Да ліку адмоўных з'явішчаў у апошні час — нарастанне ўпадніцкіх матываў. Найбольш характэрнымі ў гэтых адносінах з'яўляюцца творы Язэпа Пушчы "Асеннія песні" і "Лісты да сабакі", Кляшторнага "Калі асядае муць", Лужаніна "Рабінавае шчасце", "Вецер з Усходу" і "Самагубца" Дудара. "Чорнай восені сумам і холадам магіл" авеяна першая частка паэмы В.Маракова "Мая паэма". Разам з упадніцкімі настроямі ў беларускую літаратуру прасякаюць і неабуржуазныя погляды, перараджэнне ў бок контррэвалюцыі" [‡].

Другі "смелы" крытык А.Канакоцін[38] адзначаў, што «найбольш яркі прадстаўнік нацыянал-дэмакратызму Дудар-Глыбоцкі, пасля твора «Вецер з Усходу», у якім трактуе, што ўвесь разлад у студэнцкім асяроддзі адбываецца ад уплываў з Усходу — Масквы, піша верш «Пасеклі край наш папалам». Па Дудару, бальшавікі пасеклі Беларусь, адарвалі ад агульнага цэлага...»[§]

Не забыў адзначыцца ў "барацьбе з контррэвалюцыяй» і Л.Якаўлеў[39]: «Т.Глыбоцкі ў сваіх артыкулах піша аб «самабытнасці» Беларусі, г. зн. аб тым, што гістарычныя працэсы ў Беларусі ідуць іншым шляхам, чым у другіх краінах, а таксама ў СССР. Калі няма класавага расслаення ў Беларусі, значыць няма і класавага змагання, калі Беларусь развіваецца самабытна, стала быць дыктатура пралетарыяту ў Беларусі — з'явішча чужое, наноснае. Адкуль нанесла гэтае ліха? Вядома, з Масквы, бо нідзе ў свеце няма дыктатуры пралетарыяту, бо Масква — калыска рэвалюцыі... Нацыянал-дэмакратызм прапаведуе адрыў ад Масквы, каб прыстаць да Варшавы»[**].

---

[*] З асабістага архіва аўтара.
[†] Маладняк. 1929. № 4.
[‡] Чырвоная змена. 1929. 7 крас.
[§] Маладняк. 1930. № 12. С. 111—113.
[**] Віцебскі пралетары. 1931. 2 сак.

Наогул, тых, хто жадаў пазмагацца «з ляжачым», набралося шмат: нехта Б. Б-ч40 ("Аб Пільняку41 і "пільнякоўшчыне"[*]), Ів.Каліна42 ("Класавы вораг прабіраецца ў шчыліну" [†]) і іншыя.

22 ліп. 1930 г. А.Дудара ў высылцы арыштавалі (дзякуючы, безумоўна, і вышэйпрыведзеным публікацыям добразычліўцаў) і этапавалі ў Мінск. Але 15 студзеня 1931 г. следства «за недоказанностью вины» спыняецца, і А.Дудара зноў адпраўляюць у Смаленск — «даседжваць» тэрмін высылкі. Толькі 23 ліпеня 1931 г. паэту дазваляюць вярнуцца дадому.

Праз год А.Дудар напіша паэму «Вясна 1932 года»[‡], дзе «ў адкрытай, агітацыйнай форме супрацьпастаўляе два светы — сацыялістычны, савецкі і буржуазны, замежны... Калгасны малады энтузіязм у нас і крызіс, беспрацоўе, імперыялістычныя змовы ў іх...»[§], паэму «Вайна за мір»[**], у якой паспрабуе «перадаць агульныя настроі чалавека, захопленага сацыялістычнымі пераўтварэннямі» (Смальянава Л. П.), і падобныя па тэматыцы нырысы («Дарога ідзе ў сацыялізм», «Без перапынку»). Такі вось час: гаварылі (з блізкімі сябрамі), думалі і марылі пра адно, пісалі і выступалі з прамовамі — пра другое... Асабліва калі ад'язджалі падалей ад Мінска...

На адным з такіх «выязных» выступленняў (у Пухавічах) А.Дудара прысутнічаў паэт Павел Пруднікаў. Ён успамінаў: *«Усім сэрцам ён (А.Дудар. — **Л.М.**) ненавідзеў фальш... Яго праммата часта яму і шкодзіла. Вельмі цаніў сяброўства і пагарджаў здрадай. Быў далёкі ад рознага пляткарства і нагавораў... З кожным годам паэт рабіўся больш сталым і развяжлівым...»*[††]

У 1933 г. у другім нумары часопіса «Полымя» друкуецца паэма А.Дудара «Слуцак» (пра барацьбу з белапольскімі акупантамі). 29 верасня ў памяшканні рэдакцыі адбылося пасяджэнне, на якім абмяркоўвалі і гэты твор.

Кандрат Крапіва, які выступаў у спрэчках, адзначыў: "сацыялістычнае будаўніцтва ў паэме фактычна зусім не паказана... Вобраз Мефістофеля не характарызуе нямецкага акупанта... Тав. Мікуліч43 згаджаецца, што паэма сапраўды не мае выразнага стрыжня і таму задужа хранікальная". Аркадзь Куляшоў44 галоўным недахопам твора лічыў тое, што "сам Слуцак ці яго жыхары ніякага ўдзелу ва ўсіх падзеях не прымалі, а толькі глядзелі, як яны

[*] Віцебскі пралетары. 1929. 11 кастр.
[†] Палеская праўда. 1931. 11 мая.
[‡] Беларусь калгасная. 1932. № 6—7.
[§] Бярозкін Р. Маладосць. 1964. № 12.
[**] Полымя рэвалюцыі. 1932. № 1.
[††] ЛіМ. 1984. 21 снеж.

адбываюцца на тэрыторыі Слуцка...” Платон Галавач гаварыў, што, “аднак, нягледзячы на ўсе гэтыя недахопы, паэма з’яўляецца значным крокам наперад”. Журналіст Сяргей Знаёмы спыніўся на тым, што “вобраз контррэвалюцыянера Лістапада[45] не разгорнуты як след, ён паказаны вельмі агульна”. Заўвагі С.Знаёмага, на мой погляд, вельмі цікавыя (канешне, калі яго словы разумець літаральна, без сацыялістычнага падтэксту). Пятрусь Броўка на пасяджэнні-абмеркаванні наконт паэмы гаварыў, што “яна — ёсць велічэзны крок у набліжэнні да пазіцый савецкай літаратуры”. Вынік абмеркавання падвёў Міхась Лынькоў[46]: “[Хоць] ізаляванасць і авангардызм вядуць да нездаровай ідэалізацыі Слуцка, аднак я згаджаюся, што твор з’яўляецца буйным крокам у сэнсе адыходу Дудара ад старых сваіх пазіцый”.

У 1934 г. А.Дудар стаў сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Разам з іншымі літаратарамі ён удзельнічаў у абавязковых наведваннях прадпрыемстваў, гэтак званым набліжэнні да працоўнае масы. У карэспандэнцыі “Пісьменнікі ў рабочых завода “Бальшавік”[47] паведамлялася: “8-га лютага брыгада пісьменнікаў Заходняй вобласці... разам з тт. Клімковічам[48], Дударом, Мараковым і іншымі наведала адно з буйнейшых прадпрыемстваў гор. Менска — завод “Бальшавік”. Пісьменнікі не толькі выступалі, чыталі свае творы, але “абышлі ўсе цэхі завода <...> і пазнаёміліся з працэсамі вытворчасці”[*].

У верасні 1934 г. памёр (праз некалькі месяцаў пасля выгнання з працы ў Акадэміі навук) вядомы прафесар, адзін «з лепшых лектараў і знаўцаў старажытнай і еўрапейскай літаратуры, які напісаў шэраг навуковых работ»[†], Яўген Барычэўскі. Сярод подпісаў у некралогу побач з Я.Купалам і Я.Коласам, бачым прозвішчы А.Дудара, А.Александровіча, П.Галавача, Б.Мікуліча, С.Знаёмага, В.Маракова, П.Хатулёва, С.Левіна[49], М.Паслядовіча[50], П.Броўкі, А.Кучара[51], М.Модэля[52], М.Багуна[53], М.Аляхновіча, Р.Мурашкі. Прафесар Я.Барычэўскі, настаўнік шмат каго з беларускіх літаратараў, памёр сваёй смерцю (калі гэтак можна сказаць), але ўжо блізіўся час, калі настаўнікі і іх вучні пачнуць гінуць ад куль і катаванняў...

У 1935 г. выйшла апошняя прыжыццёвая кніжка А.Дудара “Слуцак”, у якую акрамя твора, што даў назву зборніку, увайшла і паэма “Вайна за мір”. А ўвогуле за ўвесь гэты год паэт напісаў толькі некалькі вершаў (ў сааўтарстве з Т.Кляшторным і В.Мараковым) і

---

[*] ЛіМ. 1934. 12 лют.
[†] Звязда. 1934. 15 верас.

нарысаў (разам з А.Вольным і В.Кавалём). У асноўным А.Дудар займаўся перакладамі (крытык М.Аляхновіч лічыў іх не зусім "дакладнымі…"): з рускай, грузінскай (Р.Гветадзе[54]), ідыш (І.Харыка[55]), нямецкай (Г.Гейнэ[56] і І.Гётэ[57]). Потым гэта стане яшчэ адным, дадатковым абвінавачаннем: *"В последние годы работы фактически занимался саботажем»*[*].

У першай палове 1936 г. паэт напісаў таксама толькі некалькі вершаў, але крытык Р.Бярозкін пазней адзначыў: «Нізка вершаў «Палескія ночы» з'яўляецца вышэйшым, на маю думку, дасягненнем паэта па яркасці фарбаў, выразнасці мовы і эмацыянальным багацці»[†]. Працягваў паэт і перакладаць. Да пушкінскага юбілею рыхтаваў пераклад на беларускую мову рамана «Яўгеній Анегін», але, як мы ўжо гаварылі, тады гэта лічылася сабатажам…

31 кастр. 1936 г. А.Дудара арыштавалі трэці раз. Як з «нацдэмам са стажам», з ім доўга не цырымоніліся і адразу пачалі катаваць. "Гутарыў" з паэтам вядомы сваімі садысцкімі схільнасцямі следчы Быхоўскі. Пасля трохсутачнага «канвеера» паэт «успомніў», што сапраўды лічыў, быццам *«Москва руссифицирует Беларусь… Все беды Беларуси идут от Москвы… Период с двадцать пятого по двадцать шестой годы был «золотым веком» истории белорусской литературы…»*[‡]

Пісьменнік З. на адным з допытаў у НКВД казаў пра такі выпадак:

*"Дудар… вытащил спрятанные фото высланных нацдемов и, вспоминая о совместной с ними деятельности, высказывался об этом периоде, как о расцвете белорусской культуры"*.[§]

Пасля года катаванняў 29 кастрычніка 1937 г. Алеся Дудара, разам з іншымі дваццаць адным беларускім і яўрэйскім пісьменнікамі расстралялі ў «амерыканцы».

Яшчэ ў далёкім "нэпманаўскім" 1926 г. "самабытны" (В.Бечык) Алесь Дудар пісаў: "Мы жылі, жывём і будзем жыць". Нягледзячы на шматлікія спробы, якія былі зроблены на працягу мінулага стагоддзя, каб знішчыць нават сам тэрмін "беларускі", "беларуская", паэт, безумоўна, меў рацыю, калі пісаў:

*І у нас, у жывых,*
*Не памерла гарачая памяць.*

---

[*] З асабовай справы А.Дайлідовіча (Дудара) (захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі).
[†] Маладосць. 1964. № 12.
[‡] З асабовай справы А.Дайлідовіча (Дудара).
[§] З асабовай справы А.Дайлідовіча (Дудара).

*Сцежкі гэтых гадоў*
*Не паспелі яшчэ зарасці.*
*І мы ведаем добра,*
*Каго зганьбаваць і запляміць*
*І каму, як герою, на ўзвышша вякоў узысці…*

---

[1] **СТАШЭЎСКІ Васіль Пятровіч** [11(23).3.1895, в. Свінка Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер в. Лугавая Капыльскага р-на Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], празаік, драматург, педагог. Быў жанаты з *Лідзіяй Сташэўскай.* У 1914 скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Ваяваў у 1-ю сусветную вайну і ў час грамадзянскай вайны ў Расіі. У 1918—20 і ў 1923 настаўнічаў. У 1920—21 служыў ваенкамам. У 1920 удзельнік антыпольскага руху на Случчыне. Уваходзіў у арганізацыю «Маладая Беларусь», партыю беларускіх эсэраў (БПС-Р), са студз. 1920 член Беларускай камуністычнай арганізацыі, са жн. член КП(б)Б. За пратэсты супраць арышту членаў БПС-Р выключаны ў маі 1921 з КП(б)Б. Публікавацца пачаў у 1923. У 1924 скончыў Мінскі настаўніцкі інстытут. Выкладаў гісторыю і літаратуру на настаўніцкіх курсах і на рабфаку ў Оршы. Першую п’есу апублікаваў у 1926. З 1926 жыў у Мінску. Адказны сакратар літаратурнага аб’яднання «Маладняк». У 1928—29 працаваў у рэдакцыі газ. «Савецкая Беларусь». З 1929 адказны сакратар літаратурнага аб’яднання «Полымя». Член СП Беларусі з 1934. У 1936 Беларускі тэатр юнага гледача паставіў яго п’есу «Мікола Гоман».

З успамінаў Я.Ермаловіча (1967): *«Засталася ў памяці сустрэча з Васілём Сташэўскім. Што ў ім захапляла, дык гэта нязгасны аптымізм, любоў да жыцця і вера ў яго. Знаходзячыся ў вельмі цяжкіх жыццёвых умовах, кашляючы крывёю (ён хварэў туберкулёзам), Сташэўскі расказваў анекдоты, жартаваў, спяваў, дзяліўся сюжэтамі ненапісаных твораў, якія спадзяваўся з цягам часу напісаць, і ні разу не заікнуўся аб тым, што хворы і што вось-вось можа памерці…»*

2 або 4 ліст. 1936 В.Сташэўскі быў арыштаваны як адзін з кіраўнікоў «контрревол. нацдем. организации», якая *«ставила своей целью отторжение Белоруссии от СССР и образование буржуазно-демократической республики».*

*«На суде виновным себя ни в чем не признал»* (з асабовай справы В.Сташэўскага ў КДБ), але 28 кастрычніка 1937 тройкай НКВД быў асуджаны да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.6.1957. Асабовая справа С. № 10477-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Правіянцкая, д. 33, кв. 1 была арыштавана гідратэхнік, супрацоўніца Мінскага інстытута харчовай прамысловасці **Сташэўская Лідзія Пятроўна** (н. 2.10.1908 у Мінску ў сям’і службоўца; атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю), жонка Васіля Сташэўскага. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД яна была асуджана як

«жонка расстралянага ворага народа» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы яе лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 24.7.1956. Асабовая справа С. № 6762-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[2] **БАРКОЎСКІ Сцяпан Андрэевіч** [28.3(10.4).1905, Слуцк — 11.6.1966, Мінск], крытык, літаратуразнавец, этнограф. Падлеткам браў удзел у Слуцкім паўстанні (1920). Скончыў педагагічны ф-т (1926) і аспірантуру (1931) БДУ. Працаваў у Інстытуце гісторыі АН БССР. Першыя публікацыі па этнаграфіі з'явіліся ў 1925. Як літаратурны крытык сфарміраваўся ў «Маладняку». У сярэдзіне 1920-х г. у ягонай кватэры ўтварыўся своеасаблівы «літаратурны салон» маладых літаратараў. Арыштаваны 14.11.1936. Асуджаны да 10 гадоў ППК. У 1936—46 знаходзіўся ў канцлагерах Краснаярскага краю і Сярэдняй Азіі. З канца 1946 жыў у Фрунзе (Кыргыстан). У 1950 накіраваны ў Казахстан на асваенне цаліны. Рэабілітаваны ў 1955. Вярнуўся ў Беларусь. З 1956 працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Займаўся этнаграфіяй Беларусі XIX ст. Укладальнік кніг твораў А.Дудара (1959), В.Каваля (1959), М.Нікановіча (1960). У 1959 дзякуючы яго намаганням выйшаў з друку зборнік В.Маракова "Лірыка" (хоць і ў знявечаным выглядзе — дзякуючы ўжо намаганням іншых). Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.



Баркоўскі С. А.

[3] **ЯРОШ Міхась** [Міхаіл Рыгоравіч; 10.1.1929, в. Межная Слабада, цяпер Клецкі р-н Мінскай вобл. — 10.7.1987, Мінск], літаратуразнавец, кандыдат філалагічных навук. Падрабязней гл.: *БП*, т. 6.

[4] **БЕЧЫК Варлен Леанідавіч** [25.6.1939, Астрашыцкі Гарадок Мінскага р-на — 13.11.1985, Мінск], адзін з лепшых літаратуразнаўцаў бел. паэзіі XX ст. З сям'і настаўнікаў. Скончыў філалагічны ф-т БДУ (1955). У 1962—66 аспірант кафедры беларускай літаратуры БДУ. Працаваў у газ. "ЛіМ" і час. "Неман". З 1972 супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР. З 1981 нам. галоўнага рэдактара выдавецтва "Мастацкая літаратура". Пахаваны ў в. Прылукі Мінскага р-на.

[5] **ГАЛУБОК Эдуард Уладзіслававіч** [1906, Мінск — 1943], літаратурны і тэатральны крытык, сын Уладзіслава Галубка. Скончыў БДУ (1930). Працаваў навуковым супрацоўнікам у Інстытуце літаратуры і мастацтва (1931—33), Інстытуце гісторыі АН БССР (1934—41). У 1937 як сын ворага народа на некаторы час быў пазбаўлены працы. Загінуў на фронце.

Кр.: *БП*, т. 2.

[6] **ЛЯПІЧ Раман Фёдаравіч** [1.7.1906, в. Бор Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 9.1.1977, Мінск], крытык, перакладчык. З пачатку 1923 жыў у Мінску. У 1923—26 курсант школы міліцыі. У 1926—28 вучыўся на вячэрнім рабфаку, у 1928—31 — на літаратурным ф-це БДУ. Працаваў літработнікам у рэдакцыях газ. «Звязда», «Рабочий». Друкавацца пачаў у 1929 (перакладаў на рускую мову творы бел. аўтараў). З літаратурна-крытычнымі артыкуламі ўпершыню выступіў у 1931. У 1931—35 у аспірантуры БелАН; пасля яе сканчэння да 1938 малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры. Адначасова выкладаў у МВПІ; у сак. — ліп. 1938 дэкан філалагічнага ф-та. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 21.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Надзеждзінская, д. 17, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.10.1938 як «член нацыяналістычнай фашысцкай арганізацыі» і за «падрыўную работу» да 8 гадоў ППК і адпраўлены на Калыму ў адзін з паўн.-ўсх. канцлагераў. Пасля вызвалення з 1946 працаваў як вольнанаёмны геолаг на капальнях у Магаданскай вобл. Падарваў здароўе; з 1965 інвалід 2-й групы. У 1968 вярнуўся ў Мінск. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 8.8.1969. Апошні год перад смерцю паралізаваны. Пахаваны на Чыжоўскіх могілках. Асабовая справа Л. № 20094-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.



Ляпіч Р. Ф.

[7] **ГУРЫН-МАРАЗОЎСКІ Міхаіл Іванавіч** [сапр.: Гурын; 19.11.1891, в. Ярэмічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 16.3.1928, Вільня], паліт. дзеяч, журналіст, верагодна, сваяк Яўгена Гурына. У 1912 скончыў Пскоўскі настаўніцкі інстытут; настаўнічаў. У 1-ю сусветную вайну ў царскай арміі, прапаршчык кавалерыі. Далучыўся да эсэраў. Пасля Кастрычніцкага перавароту ў Чырвонай арміі; вучыўся ў Акадэміі Генштаба. З 1920 у Беларусі. Уваходзіў у Беларускую камуністычную арганізацыю, якая ў жн. 1920 улілася ў КП(б)Б. З 1921 рэдактар газ. «Белорусская деревня» і «Савецкая Беларусь». У верас. 1921 за крытыку Галоўпалітасветы БССР Бюро ЦК КП(б)Б пазбавіла яго на 6 месяцаў права абірацца на кіраўнічыя пасады. 28.2.1924 пасланы на падпольную работу ў Зах. Беларусь. Узяў курс на падрыхтоўку ў Зах. Беларусі ўзброенага паўстання і далучэння да БССР. Гэта выклікала раскол у КПЗБ («Сэцэсія»). 7.1.1925 на закрытым пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б ліквідавала Замежнае бюро ЦК КП(б)Б і прапанавала Г.-М. вярнуцца ў БССР. Г.-М. адмовіўся, выйшаў з КПЗБ і разам з Л.Родзевічам арганізаваў у Вільні падпольную друкарню, у якой выпускаў газ. «Чырвоны сцяг». Польскія ўлады арыштавалі Г.-М. На «працэсе 56-і» над лідэрамі БСРГ ён даў паказанні супраць Б.Тарашкевіча і С.Рак-Міхайлоўскага. У канцы 1927 у газ. «Беларускі дзень» пачаў друкаваць успаміны «З недалёкага мінулага». Але скончыць іх не паспеў. Па рашэнне ЦК КПЗБ аб ліквідацыі Г.-М. застрэлены С.Клінцэвічам і А.Капуцкім.

[8] **ПАШКОВІЧ Іван Феліксавіч** [22.5.1898, мяст. Глыбокае Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер горад Віцебскай вобл. — 19.1.1938, Яраслаўская вобл.], журналіст, педагог. Брат члена ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў М.Пашковіча. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у сістэме Наркамасветы. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Згадваўся ў сакрэтным дакладзе ДПУ БССР у ЦК КП(б)Б ад 29.10.1925 «Аб беларуска-эсэраўскім шавіністычным руху». Арыштаваны 17.2.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі» ў Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва, антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў ва Угліччы (Расія). Вызвалены 17.2.1935. Працаваў настаўнікам у СШ. Другі раз арыштаваны 9.9.1937 ва Угліччы па адрасе: вул. Леніна, д. 10 і асуджаны НКВД Яраслаўскай вобл. да ВМП. Расстраляны. Па першай справе № 20951-с (захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 19.9.1960, па другой — ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 5.5.1958.

[9] **ВОЛЬНЫ Анатоль** [сапр.: Ажгірэй Анатоль Іусцінавіч; іншыя псеўданімы і крыптанім: А.В.; Акша; Алёша; В.Анатолий; Анатолий Вольный; 19.11(2.12).1902, ст. Пухавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], паэт, празаік,

кінадраматург, журналіст. З сям'і службоўца. Вучыўся ў Ігуменскай гімназіі (паступіў у 1911). У 1920 пайшоў добраахвотнікам у Чырвоную Армію. Пасля дэмабілізацыі ў 1921 працаваў у ЦК ЛКСМБ; у газ. «Маладый араты». Вучыўся ў БДУ. Публікаваўся з 1921. У 1920—30-х г. быў актыўным удзельнікам літаратурна-мастацкага руху ў Беларусі. З 1923 у літаб'яднанні «Маладняк». Адзін з пачынальнікаў прыгодніцкага жанру ў бел. прозе. Член СП Беларусі з 1934; заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1935). Паводле сцэнарыяў В. пастаўлены фільмы «Хвоі гамоняць» (1929, суаўтар К.Дзяржавін), «Атэль «Савой» (1930), «У агні народжаныя» (1930), «Сонечны паход» (1931), «Новая радзіма» (1935) і інш. Яго называлі «майстрам контррэвалюцыйных анекдотаў». Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 4.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. М. Горкага, д. 4, кв. 6. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 3.12.1957**.** Асабовая справа № 11054-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.



Вольны А. і Чарот М. 1925 г.

[10] **ГАЛАВАЧ Платон Раманавіч** [5(18).4.1903, в. Пабокавічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], празаік. У 1922—23 інструктар Барысаўскага павятовага камітэта камсамола, з 1926 загадчык аргаддзела, з

1928 першы сакратар ЦК ЛКСМБ. У 1929—30 нам. наркама асветы БССР. У 1922—23 вучыўся ў Мінскай партшколе, у 1926 скончыў Камуністычны ун-т Беларусі. Быў рэдактарам газ. «Чырвоная змена», час. «Маладняк», «Полымя». З'яўляўся адным з лідэраў літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» і БелАПП. Ініцыятар арганізацыі крытыка-творчага аддзялення МВПІ. Друкавацца пачаў у 1921. Першае бел. апавяданне «Загубленае жыццё» апублікавана ў газ. «Савецкая Беларусь» у 1925. У 1927 выйшла першая кніга апавяданняў «Дробязі жыцця». Тэматыка шматлікіх аповесцей, апавяданняў, нарысаў звязана з грамадзянскай вайной і жыццём вёскі. Яго творы карысталіся поспехам, яны перакладаліся на польскую, украінскую, чэшскую, яўрэйскую мовы.



Галавач П. Р.

Па ўспамінах паэта Паўла Пруднікава (таксама рэпрэсаванага), *“Платон Галавач быў рослы, стройны, прыгожы малады чалавек з бялявай чупрынай, якой не стараўся закрываць свой шырокі і высокі лоб, з блакітнымі вачамі, белымі, як цукар, зубамі, з правільнымі рысамі твару, на якім заўсёды ззяла ўсмешка, акуратна апрануты і абуты. Пераважна любіў хадзіць у светла-шэрым касцюме і белай кашулі-касаваротцы, вышытай беларускім народным арнаментам і падпяразанай тонкім поясам з кутасамі. Ён заўсёды з кожным быў прыветлівы і стараўся трымацца роўным. У час гутаркі ніколі не перабіваў свайго субяседніка. Спачатку даваў магчымасць выказацца яму, а потым ужо гаварыў сам, ніколі ні на каго не павышаў голасу. Скажу шчыра — не любіць яго была нельга”.*

А вось што прыгадваў пра пісьменніка Я.Скрыган (таксама рэпрэсаваны) у сваёй кнізе “Некалькі хвілін чужога жыцця” (Мн., 1990. С.52):

*«Любіў глядзець трошачкі спадылба, гаворыў вельмі спакойна і ціха, голас у яго быў мяккі, з малюсенькім насавым гучаннем. І здалося зусім нечаканым, што няма ў яго ні рэзкага жэсту, які звычайна выпрацоўвае*

*прафесія, ні строгага позірку, ні павышанай камандзірскай ноты — усё па-чалавечы проста і душэўна».*

Арыштавалі Г. 11.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 8/1, кв. 34. Пры вобыску следчыя канфіскавалі 67 сшыткаў рукапісаў (магчыма, сярод іх быў і раман «Ён»). У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Ва ўнутранай турме НКВД лёс звёў Г. з яшчэ адным рэпрэсаваным пісьменнікам С.Шушкевічам, які пазней успамінаў такі эпізод (прыведзены ў кнізе В.Куляшовай «Лясному рэху праўду раскажу», Мн., 1989):

*“Платона Галавача і Васіля Каваля я бачыў апошні раз 3 кастрычніка 1937 года. Іх прывялі сведчыць супраць мяне. Скатаваны і знясілены, Платон Раманавіч доўга маўчаў... Нарэшце загаварыў: “За <мной> няма ніякай віны, таксама, як і за кожным з нас”. Сказаў і заплакаў...”*

Перад “судом” Г. пакіне ў камеры запіску: *«Таварышы, даруйце, калі чым вінаваты перад вамі. Гісторыя яшчэ скажа праўду пра нас. Платон».* Але на “судзе” (пачнецца ў 22.15, а скончыцца праз пятнаццаць хвілін) вінаватым сябе прызнаў.

28.10.1937 у 22.30 тройкай НКВД Г. быў асуджаны як «арганізатар тэрарыстычнай групоўкі» і за «правядзенне нямецка-фашысцкай дзейнасці» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны праз некалькі гадзін пасля прысуду.

З сакрэтнай даведкі начальніка 1-га спецаддзела НКВД Шавялёва:

*“Акт аб выкананні прысуду захоўваецца ў Мінску ў Асобым архіве 1-га спецаддзела НКВД СССР том 8 ліст 16”.*

Асабовая справа Г. № 6852-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі. Многія яго творы засталіся няскончанымі, у тым ліку кніга пра паўстанне 1863—64 і К.Каліноўскага. Імем Г. названы вуліца і завулак у Бабруйску; у 1968 на будынку Гарбацэвіцкай школы Бабруйскага р-на, дзе вучыўся Г., адкрыта мемарыяльная дошка.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 8/1, кв. 34 была арыштавана хатняя гаспадыня, маці дваіх дзяцей (дачкі Галіны і сына Ралана) **Вечар Ніка Фёдараўна** (н. у 1905 у в. Машчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ.), жонка *Платона Галавача.* 28.11.1937 яна была асуджана асобай нарадай пры НКВД як “член сям’і расстралянага ворага радзімы” да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР (в. Далінская). Пасля вызвалення вярнулася на радзіму. Рэабілітавана трыбуналам БВА 24.7.1956. Асабовая справа В. № 6759-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Далей — no comment:

*“Зам. Министру внутренних дел БССР полковнику Ханяк.*

*Рапорт.*

*В 1 спецотдел МВД БССР поступило заявление Вечер Нины Федоровны о розыске Головача Платона Романовича, осужденного ВК Верховного суда СССР к ВМН.*

*Прошу вашего согласия объявить заявителю Вечер Н.Ф., что муж ее, Головач П. Р., находясь в лагере, умер 25 декабря 1944 г. от паралича сердца.*

*Начальник 1 спецотдела МВД БССР майор Минаев».*

На рапарце ёсць рэзалюцыя:

*“Согласен. 19.VIII”* (1956 г. — ***Л. М.***) *Подпіс”.*

11 **СЯНКЕВІЧ Аляксандр Антонавіч** [20.1.1884, в. Мікалаеўшчына Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 29.6.1938, Мінск, НКВД], дзяржаўны і паліт. дзеяч, медык, пісьменнік, публіцыст. У 1902 скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Працаваў у вясковых школах. Удзельнік аграрнага руху ў час рэвалюцыі 1905—07. Адзін з арганізатараў нелегальнага настаўніцкага з’езда 9.7.1906 у Мікалаеўшчыне, на якім зрабіў даклад пра паліт. становішча ў Расіі. З’езд быў разагнаны паліцыяй. У канцы 1906 эміграваў у ЗША. Працаваў на розных прадпрыемствах. З 1908 член рускага аддзела Амерыканскай сацыялістычнай партыі. У 1913 скончыў медыцынскі ф-т Мэрылендскага ун-та ў Балтыморы. У 1917 праз Японію трапіў на Далёкі Усход. Займаў там розныя адміністрацыйныя пасады. З 1921 наркам аховы здароўя БССР. У 1924—26 загадчык бел. сектара Камуністычнага ун-та нацыянальных меншасцей Захаду ў Маскве. З 1926 дацэнт БДУ. З 1928 рэктар Камуністычнага ун-та Беларусі. У 1931—32 працаваў у Інстытуце літаратуры і мастацтва БелАН. У публіцыстыцы «грашыў» сацыялагізатарскім, класавым падыходам да творчасці пісьменнікаў. З 1932 дырэктар Інстытута гігіены і санітарыі Наркамата аховы здароўя РСФСР. З 1935 працаваў ва Усесаюзным радыёкамітэце. Арыштаваны 10.1.1938. У чэрв. 1938 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 6.10.1956.

12 **МАЗУРКЕВІЧ Язэп** [Іосіф Ігнатавіч; псеўданім: Я.Цікавы; 1887, в. Цялякава Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 4.11.1937, Віцебск, турма НКВД], празаік, крытык, краязнавец. З сям’і службоўца. У 1906 здаў экстэрнам экзамен на званне настаўніка пачатковай школы; да 1915 настаўнічаў на Навагрудчыне. У 1918—19 настаўнічаў у Саратаўскай губ. З 1919 зноў на Навагрудчыне; працаваў у прыватнай школе; удзельнічаў у падпольным і партызанскім антыпольскім руху. Арыштаваны польскімі ўладамі ў 1921; зняволены ў Баранавіцкай турме, з якой уцёк і перабраўся ў БССР. Настаўнічаў на Случчыне. У 1924 скончыў Вышэйшыя курсы беларусазнаўства ў Мінску. Працаваў у Віцебску — выкладаў у навучальных установах; быў супрацоўнікам краязнаўчага музея. Пачаў публікавацца з 1922 — у час. «Полымя», «Маладняк», у мінскіх і абл. газетах. Пры яго ўдзеле падрыхтаваны і выдадзены альманахі «Пачатак» (1926) і «Світанне» (1927; у абодвух аўтар прадмоў). Удзельнічаў у стварэнні Віцебскай філіі «Маладняка» і Віцебскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў; уваходзіў у склад Цэнтральнага бюро «Маладняка» і ў праўленне

БелАПП. Падчас арышту настаўнік СШ № 1 Віцебска. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 17.9.1937. Асуджаны 20.10.1937 асобай нарадай пры НКВД СССР як «член ПАВ» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны 4.11.1937 у Віцебску. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР 16.5.1957. Асабовая справа М. № 10895-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.



Мазуркевіч Я. 1928 г.

Аб Я.Мазуркевічу за апошнія 70 гадоў у друку было толькі адно ўпамінанне. З кнігі С.Лаўшука «Станаўленне беларускай савецкай драматургіі» (Мн., 1984. С. 178—179):

*«Тыповай з п'ес, прысвечаных асэнсаванню вясковай рэчаіснасці, можна лічыць драму Язэпа Мазуркевіча «За калгас» (1930). Гэту «крыклівую» п'есу з трох абразкоў называлі ў свой час вельмі актуальнай і праўдзівай... Па аўтарскай задуме цэнтральнай фігурай твора павінен стаць кулак Вавіла, які здолеў аблытаць увесь савецкі апарат у сваей вёсцы...* ***Другі абразок п'есы <...> цалкам прысвечаны сатырычнаму асмяянню царкоўнікаў. Што і гаварыць, задума вельмі высакародная і надзёная*** (падкрэслена мной. — ***Л. М.***)*, толькі ж здзяйсняе яе аўтар не найлепшым чынам».*

[13] **БРОЎКА Пятрусь** [12(25).6.1905, в. Пуцілкавічы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Ушацкі р-н Віцебскай вобл. — 24.3.1980, Мінск], народны паэт БССР (1962). Са шматдзетнай сялянскай сям'і. З 1928 да 1931 вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага ф-та БДУ. У 1934 ажаніўся з Аленай Рыдзеўскай, дачкой рэпрэсаванага (разам з жонкай і сынамі) у 1936—37 педагога, дырэктара МБПТ Міхаіла Рыдзеўскага. З 1943 Б. — адказны сакратар, з 1948 — старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. З 1967 галоўны рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Лаўрэат Сталінскіх і шмат якіх іншых прэмій. Пахаваны на Усходніх могілках.



Броўка П. 1928 г.

[14] **ХУРСІК Сымон Аляксеевіч** [псеўданім: С. Багун; 31.1(13.2).1902, в. Снусцік Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 31.3.1972, Караганда], празаік, перакладчык. З сялянскай сям'і. Як пісаў сам С.Хурсік: *«Калі я аглядаюся на маё дзяцінства — яно мне прадстаўляецца халодным, суровым і нават вусцішным...»* Друкавацца пачаў у 1924. У 1925 скончыў МБПТ. Настаўнічаў у мяст. Валынцы на Полаччыне і ў Полацку; працаваў у рэдакцыі газ. «Чырвоная Полаччына». У 1928 М.Гарэцкі пісаў: *"Хурсік выявіў сябе значным майстрам малюнкаў з яскравымі і моцна пакладзенымі фарбамі. Па натуральнасці, цікавасці і жывасці апавяданне Сымона Хурсіка ў маладнякоўскай прозе займае першае месца".* У канцы 1920-х г. сакратар час. «Маладняк». У 1930 атрымаў дыплом літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педагагічнага ф-та БДУ. Першае апавяданне апублікаваў у 1924 у газ. «Савецкая Беларусь». Аўтар дзвюх кніжак апавяданняў. У газ. «Чырвоная Полаччына» друкаваў вершы. Пераклаў на бел. мову аповесць А.Серафімовіча «Горад у стэпе» (Мн., 1930), з польскай — апавяданне А.Гараўскага «Алёнка» (Маладняк. 1930, № 6—7). Арыштаваны АДПУ 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў высылкі ў Йашкар-Алу. Працаваў настаўнікам у Марыйскай і Чувашскай АССР, у Казахстане. Ваяваў у гады вайны на 4-м Украінскім і 1-м Беларускім франтах; быў двойчы кантужаны. Пасля вайны вярнуўся да настаўніцкай працы. Зноў арыштаваны 21.6.1947; высланы ў пас. Айдабул Какчэтаўскай вобл. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 13.10.1958. З 1964 жыў у Карагандзе. Да творчай працы не вярнуўся. Групавая справа Х. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[15] Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе **ПАСКРЭБКА Уладзімір Дзмітрыевіч** [1903, Ігумен Мінскай губ., з 18.9.1923 Чэрвень, цяпер

райцэнтр Мінскай вобл. — 22.9.1938, Мінск, турма НКВД]. З сялянскай сям'і. Працаваў настаўнікам у адной з мінскіх школ. Арыштаваны ў 1937 у Мінску на вул. Інтэрнацыянальнай. Асуджаны 20.9.1938 тройкай НКВД за "шпіянаж на карысць Польшчы" і як "член шпіёнскай арганізацыі" да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 1.2.1961. Асабовая справа П. № 16905-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[16] **ФАМІН Сяргей Уладзіміравіч** [29.4(12.5).1906, в. Пепелеўка Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Манастыршчынскі р-н Смаленскай вобл., Расія — 4.12.1941, Ярэга, Комі АССР], паэт. З сям'і вясковага настаўніка. Скончыў Мсціслаўскую сямігодку. Яшчэ школьнікам дасылаў карэспандэнцыі ў мясцовыя газеты. У 1925 скончыў Магілёўскі педтэхнікум. Два гады настаўнічаў на Барысаўшчыне, потым паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ, якое скончыў у 1930.



Фамін С. У. 1928 Г.

*«Сярод студэнтаў універсітэта яго невысокая фігура вылучалася нейкаю мілаю дваістасцю. З аднаго боку кідалася ў вочы паэтычная прыналежнасць яго: доўгія, густа зачэсаныя валасы; тоненькі гальштук на кужэльнай, здавалася, занадта памятай кашулі, пашытай, мабыць, мацераю ці сястрою роўненькім, аднак не машынавым, а ручным швом; хада такая, што як бы не яна слухалася гаспадара, а гаспадар ішоў туды, куды вялі яго ногі. З другога нейкая, яшчэ не страчаная вясковасць: зухавата адкінутая на самую патыліцу кепка так, што відзён быў толькі задраны ў неба казырок; загарэлы, ціхі твар; нясмеласць, нават нейкая крыўда ў вачах…*

*Але гэтак выглядаў С.Фамін да таго часу, пакуль маўчаў. Варта ж было яму загаварыць, як вам пачынала здавацца, што вы гэтага чалавека ведаеце ўсё жыццё. І голас, і раптам … ажывелы твар, і яшчэ бог ведае якія няўлоўныя рухі чалавечае душы вас забіралі пад свой уплыў адразу».* (Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990).

Першы верш Ф. апублікаваны ў 1924 у газ. «Соха и молот». З 1925 пісаў па-беларуску. Тады ж быў прыняты ў «Маладняк». Публікаваўся ў час. «Маладняк», «Полымя», «Маладняк Барысаўшчыны». Пасля расколу «Маладняка» ўваходзіў у «Пралетарска-сялянскую беларускую літаратурную суполку» («Пробліск»; ліп. 1927 — студз. 1928). Перакладаў з украінскай мовы вершы У.Сасюры. Вершы Ф. перакладаліся на ўкраінскую і рускую мовы. У 1927 асобным выданнем выйшла яго паэма «Балота». У 1928 М.Гарэцкі пісаў, што ў С.Фаміна «вобразнасць прыгожая і адшліфаваная». Разам з В.Мараковым і інш. Ф. неаднойчы выступаў на заводах, фабрыках і ў клубах. У 1929 падрыхтаваў да друку кнігу вершаў «Дымнае жыта», якая тады не была апублікавана. З 1930 творчая актыўнасць Ф. рэзка знізілася, ён амаль перастаў пісаць і друкавацца. У друку з’явіліся разгромныя рэцэнзіі на яго паэзію. Выкладаў бел. і рускую мову і літаратуру ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі.

*«Ад акадэміі запомніўся шырокі двор з двухпавярховымі мураванкамі шэрага, казённага тыпу (…) Сяргееў пакой… Адна сцяна збіта з досак, яна дрыжала, калі адчыняліся дзверы… Сяргей быў не адзін. Я адразу ўспомніў, што некалі, на апошнім курсе універсітэта, пры выхадзе вельмі часта чакала яго дзяўчына стройнай постаці, з адухоўленым тварам, і вочы ў яе загараліся, як толькі ён паяўляўся. Таксама студэнтка. (…)*

*— Сядзьце, — сказала яна, — (…) я ведаю, чаго вы на мяне паглядзелі. Сама скажу, каб не пыталіся: нешта не выйшла ў нас гэтак, як хацелпся. Не скажу, што з ім цяжка, можа, горш — што вельмі лёгка. Нейкі ён раскіданы, усяму адкрыты, вечна спяшаецца некуды паспець… Гэтак і ў вершах, гэтак і ў рабоце. Гэтак і ў сям'і. Праўда, мы яе і не маем, я дзяцей нават не асмелілася заводзіць. І калі задумаешся — то ў нас жа няма і заўтрашняга дня…»* (Скрыган Я. Некалькі хвілін з чужога жыцця. Мн., 1990).

Арыштаваны 8.2.1935. Асуджаны 28.4.1935 тройкай НКВД за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вывучаў там італьянскую мову, завучваў вершы А.Дантэ ў арыгінале. Працягваў пісаць у зняволенні; некаторыя вершы занатоўваў у лістах да родных. Паўторна арыштаваны ў лагеры; 2.10.1941 як «удзельнік дыверсійнай групы» прыгавораны да расстрэлу. Па першай справе (№ 15523; захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.) рэабілітаваны 27.2.1956 Вярхоўным судом БССР.

Улетку 1928 Юлі Таўбін (расстраляны ў 1937) прысвеціць С.Фаміну верш, дзе ёсць наступныя радкі:

*Калісьці ў далёкія годы*
*Мы снілі цудоўныя сны –*

*І многа прыгожых мэлёдый*
*Ўлівалася ў спевы вясны.*

Эпіграфам к вершу былі ўзяты радкі Т.Кляшторнага (расстраляны разам з Ю.Таўбіным):

*Агаркі зары дагарэлі,*
*А песні ў душы не згарэць.*

[17] Сярод удзельнікаў Першага з'езда «Маладняка» быў і малады паэт **Мікола ДУБОВІК** [28.7.1905, в. Мурыны Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 30.6.1928]. З сялянскай сям'і. Пасля сканчэння агульнаадукацыйных курсаў (1923) паступіў у БДУ. З 1925 пачаў актыўна друкавацца. Трагічна загінуў у 23 гады (утапіўся).

В.Маракоў прысвяціў М.Дубовіку верш:

*Мне не забыць былыя вечары*
*І нашы гутаркі пра Байрана і Гётэ.*
*Мне не забыць*
*Крывавы смех зары*
*Над доляю галоднага паэта…*

[18] **ЧАРНУШЭВІЧ Нічыпар Тодаравіч** [Фёдаравіч, Хведаравіч; 1(14).11.1900, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Мінскай вобл. — 18.2.1967, Мінск], паэт, перакладчык, драматург. З сялянскай сям'і, брат пісьменніка М.Хведаровіча. Падчас 1-й сусветнай вайны ў бежанстве ў Калузе. У 1917 вярнуўся на Радзіму. У 1917—20 працаваў настаўнікам у Траянаўскім народным вучылішчы на Капыльшчыне. У 1922—28 вучыўся на сацыяльна-гістарычным аддзяленні педагагічнага ф-та БДУ. Адначасова працаваў у школе малодшага каманднага і паліт. саставу 4-й Смаленскай дывізіі (1922—23), загадчыкам аддзела газ. «Савецкая Беларусь» (1924—29). Першыя вершы апублікаваў у 1923 у час. «Полымя»; публікаваўся ў час. «Маладняк», газ. «Савецкая Беларусь». Член літаб'яднання «Маладняк». У 1926 разам з М.Модэлем быў рэдактарам друкаванага органа бел. студэнцтва «Голас студэнта». З 1929 слухач Вышэйшых навукова-педагагічных курсаў пры 2-м Маскоўскім ун-це. Арыштаваны ДПУ БССР 27.3.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 прыгавораны да 5 гадоў ссылкі ў Вятку. У 1931—35 супрацоўнік газ. «Вятская правда» (пазней «Кировская правда»). У жн. 1935 абвінавачанні зняты (канчаткова рэабілітаваны ў 1960). У 1935—41 выкладчык гісторыі ў школах Масквы. У кастр. 1941 эвакуіраваўся ў Цюмень, дзе працаваў загадчыкам аддзела ў рэдакцыі газ. «Тюменская правда» (публікаваў там свае нарысы, вершы, сатыру). У 1947 вярнуўся ў Мінск. Працаваў начальнікам планавага аддзела Белсельгасзабеспячэння, з 1949 — выкладчык гісторыі Мінскай афіцэрскай школы, з 1952 старшы інжынер трэста папяровай прамысловасці. У розныя гады працаваў у Белдзяржвыдавецтве, на Беларускім радыё. Член СП

Беларусі з 1957. Перакладаў на бел. мову творы рускіх, украінскіх, яўрэйскіх паэтаў. Пахаваны на Усх. могілках у Мінску.

**ТРАЕЦКІ Аляксей** [1900 — 23.9.1937, Мінск, НКВД], празаік, драматург, паэт. Пачаў друкавацца ў 1925 (вершы і байкі на вясковыя тэмы). У 1926 яго апавяданні былі змешчаны ў «Маладняку». Да канца 1920-х г. досыць актыўна публікаваў байкі, вершы, апавяданні.

М.Гарэцкі ў 1928 г. пісаў: *«Плынь асаблівага рамантычнага псіхалагізму ўнёс быў у маладнякоўскую прозу Траецкі («Працерабіў шлях», «Апошні дзень», «Туманныя ночы»), але чамусьці апошнім часам яго апавяданні ў друку не з'яўляюцца… Сюжэтаў з жыцця эміграцыі зусім няма. Нешта* <…> *хацеў сказаць Траецкі аб жыцці балахоўцаў, якія цяпер працуюць наймітамі ў ангельскае і польскае буржуазіі…»*



Траецкі А. 1928 г.

У 1930 у трох нумарах «Узвышша» была надрукавана аповесць Т. «Старасельшчына». Потым яго імя знікла са старонак перыядычнага друку, і толькі ў 1935 з'явілася апавяданне «Храбрацы». У 1934 асобным выданнем выйшла камедыя «Нашы Казыры», якая ў 1936 была апублікавана ў Харкаве па-ўкраінску. У суаўтарстве напісаў п'есу «Гонар», якая была пастаўлена ў БДТ-2 9.12.1934. Арыштаваны 6.5.1937. Расстраляны.

[19] **ПЛАШЧЫНСКІ Ізідар Паўлавіч** (1908, в. Каралішчавічы Мінскага пав, цяпер Мінскі р-н — 25.2.1986, Нью-Йорк, ЗША], літаратуразнавец. Са шмадзетнай сялянскай сям'і, брат паэта Я. Пушчы. Пасля сканчэння ў другой палове 1920-х г. літаратурна-лінгвістычнага ф-та БДУ настаўнічаў у Мінску, потым працаваў у БелТА. Падчас 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі, працаваў акцёрам у тэатры. З 1944 жыў у Германіі, потым ЗША. Актыўна выступаў у эміграцыйным друку.

Кр.: *БП*, т. 6.

[20] **СКАРЫНА Францыск,** бел. і ўсх.-славянскі першадрукар, асветнік-гуманіст, пісьменнік, грамадскі дзеяч, прадпрымальнік, вучоны-медык.

[21] **КАЛІНОЎСКІ Кастусь** [Вікенцій Канстанцін Сямёнавіч; псеўданімы: Вітажэнец; Хамовіч; Jaśko haspadar z pad Wilni; 21.1(2.2).1838, в. Мастаўляны Гродзенскага пав., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 22.3.1864, Вільня], адзін з лідэраў паўстання 1863—64, публіцыст, паэт. У 1852 скончыў Свіслацкае павятовае вучылішча, у 1860 юрыдычны ф-т Пецярбургскага ун-та, кандыдат права. Вярнуўся ў Беларусь у пачатку 1861. У 1861—62 стварыў у Гродне і Гродзенскай губ. шэраг нелегальных рэвалюцыйных арганізацый. Адзін са стваральнікаў восенню 1861 «Камітэта руху» — арганізацыйнага цэнтра «чырвоных». З кастр. 1862 старшыня Літоўскага правінцыяльнага камітэта (ЛПК). Разам з В.Урублеўскім і Ф.Ражанскім заснаваў нелегальную друкарню і наладзіў выпуск першай бел. рэвалюцыйна-дэмакратычнай газ. «Мужыцкая праўда», большасць матэрыялаў для якой пісаў сам. У пачатку студз. 1863 на польскай мове выдаў першы нумар газ. «Chorągiew swobody», якая была афіцыйным органам ЛПК. Магчыма, выдаваў газ. «Głos z Litwy». 1.2.1863 узначаліў Часовы правінцыяльны ўрад Літвы і Беларусі. У сак. 1863 адхілены «белымі» ад кіраўніцтва; накіраваны на пасаду паўстанцкага камісара Гродзенскага ваяв. Са снеж. 1863 старшыня Выканаўчага аддзела Літвы. Арыштаваны 9.2.1864. У турме напісаў і перадаў на волю сваё паліт. завяшчанне — «Лісты з-пад шыбеніцы». Паводле рашэння ваенна-палявога суда павешаны на Лукішскай плошчы. Імя К. было забыта амаль да пачатку XX ст., калі да яго спадчыны звярнуліся браты Луцкевічы і інш. Вобраз К. шырока адлюстраваны ў літаратуры і мастацтве. У г. п. Свіслач яму пастаўлены помнік.

[22] **БАГДАНОВІЧ Максім Адамавіч** [27.11(9.12).1891, Мінск — 12(25).5.1917, Ялта], паэт, класік беларускай літаратуры.

[23] **ГУРЛО Алесь** [Аляксандр Кандратавіч; псеўданім і крыптанімы: Л.Эхо; А.Г.; А.Г-ло; 19(31).1.1892, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыль Мінскай вобл. — 4.2.1938, Мінск], паэт, празаік, перакладчык, лінгвіст. Публікаваўся з 1907 (газ. «Наша ніва»). У 1908 скончыў Капыльскае двухкласнае вучылішча. Збіраў вусную народную творчасць. У 1909 уступіў у РСДРП; удзельнічаў у выданні рукапісных час. «Заря», «Голос низа», «Вольная думка» (1910—11, Капыль). У 1912 з дапамогай Ц.Гартнага ўладкаваўся на работу на ліцейны завод «Вулкан» у Санкт-Пецярбургу. З 1914 служыў на Балтыйскім флоце. Падчас 1-й сусветнай вайны быў паранены. Удзельнічаў у кастрычніцкім пераваросе ў Пецярбургу на баку бальшавікоў; браў удзел у захопе Зімняга палаца. У 1919 цяжка паранены пад Казанню; камісаваны з войска як інвалід. У 1919—20 працаваў у Ніжагародскім порце. З 1921 жыў у

Мінску. Працаваў у Наркамаце асветы БССР. У 1922—23 у газ. «Савецкая Беларусь». У 1920-я г. ў тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта; займаўся ў аспірантуры. У 1929—30 навуковы супрацоўнік Інстытута мовы БелАН. Браў удзел у стварэнні тэрміналагічных слоўнікаў; падрыхтаваў і выдаў слоўнік «Тэхнічная тэрміналогія» (Вып. 1. Мн., 1932). Рыхтаваў слоўнік краўцоўскай мовы мяст. Капыль і краёвы слоўнік Капыльшчыны (матэрыялы загінулі падчас 2-й сусветнай вайны). Выдаў некалькі зборнікаў вершаў; перакладаў творы рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў. Быў членам літаб'яднанняў «Маладняк» і «Пробліск».

*«Творчы лёс паэта Алеся Гурло не быў усыпаны ружамі. Ён не зведаў хмелю славы. Сціпласць, як неаддзельная якасць яго натуры, стрыманасць, спакой і разважлівасць... задумёны позірк глыбока пасаджаных вачэй, добрая ўсмешка чалавека, шмат зазнаўшага ў жыцці»* (Звонак А. Неспакойныя сэрцы. Мн., 1973).

Быў жанаты, гадаваў двaіх дзяцей. Арыштаваны АДПУ 24.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 за «антысавецкую агітацыю, шкодніцтва» на 5 гадоў пазбаўлення волі (умоўна). У 1934 стаў членам СП БССР. Памёр ад сухотаў. Пахаваны на Вайсковых могілках Мінска. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа Г. і іншых № 20951-с з яго фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[24] **САСЮРА Уладзімір Мікалаевіч** [6.1.1898, Дэбальцава, цяпер Данецкая вобл., Украіна — 8.1.1965, Кіеў], украінскі пісьменнік, паэт-лірык, аўтар каля 80 зборнікаў паэзіі, эпічных паэм, рамана «Третья Рота» і інш.

[25] **ВІШНЯ Астап** [сапр.: Губенка Павел Міхайлавіч; 13.11.1889 — 28.9.1956] — украінскі пісьменнік, гумарыст і сатырык. У 1933 арыштаваны і асуджаны да 10 гадоў ППК.

[26] **ДОСВІТНЫ** Алесь [1891 — 1934], украінскі пісьменнік. Арыштоўваўся польскай дэфензівай. Сядзеў у турме. Вызвалены праз абмен на белапалякаў. Напісаў аўтабіяграфічны раман «Нас было трое».

[27] **КРАПІВА Кандрат** (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 22.2.1896, в. Нізок Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 7.1.1991, Мінск), пісьменнік, член СП БССР (1934), член-карэспандэнт АН БССР (1940), акадэмік АН БССР (1950), доктар філалагічных навук (1953), народны пісьменнік БССР (1956), Герой Сацыялістычнай Працы (1975), заслужаны дзеяч навукі БССР (1978), лаўрэат дзяржаўных прэмій БССР і СССР. З сялянскай сям'і. Вучыўся ў царкоўна-прыходскай школе ў роднай вёсцы, Уздзенскім народным вучылішчы, Стаўбцоўскім і Койданаўскім чатырохкласных гарадскіх вучылішчах. Увосень 1913 экстэрнам здаў у Мінску экзамен на званне народнага настаўніка. У жн. 1915

прызваны ў армію, скончыў Гатчынскую школу прапаршчыкаў (сак. 1916). Накіраваны на Зах., потым на Румынскі фронт. Дэмабілізаваны ў студз. 1918. Вярнуўся дадому, працаваў настаўнікам. Са жн. 1920 да восені 1923 у Чырвонай арміі. Пасля дэмібілізацыі працаваў настаўнікам у в. Астравок (цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл.). З мая 1925 у Мінску, працаваў інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інстытуце беларускай культуры. У 1926 паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ (скончыў у 1930). З 1932 да 1936 загадчык аддзела рэдакцыі прозы час. "Полымя рэвалюцыі". Удзельнічаў у савецка-фінляндскай вайне (1939—1940). Падчас 2-й сусветнай вайны працаваў у рэдакцыях розных газет. З 1945 адказны рэдактар "Вожыка". У 1947—51 загадчык сектара мовазнаўства Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. З 1952 дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР. З 1982 вядучы навуковы супрацоўнік-кансультант Інстытута мовазнаўства імя Я.Коласа АН БССР. Узнагароджаны 4 ордэнамі Леніна, ордэнамі Кастрычніцкай рэвалюцыі, Чырвонага Сцяга, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны 2-й ступені, Дружбы народаў, Чырвонай Зоркі, медалямі. З мая 1989 на пенсіі. Пахаваны на Усходніх могілках.

Кр.: *БП*, т. 3.

[28] **ЯКІМОВІЧ Алесь** [Аляксандр Іванавіч; 17.1.1904, в. Чурылава Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 15.1.1979, Мінск], дзіцячы пісьменнік. Са шмадзетнай сялянскай сям'і. Скончыў МБПТ (1926; вучыўся разам ці ў адзін час з А.Адамовічам, А.Александровічам, Н.Вішнеўскай, П.Глебкам, С.Дарожным, В.Казлоўскім, М.Лужаніным, С.Ліхадзіеўскім, П.Трусам, С.Шушкевічам і інш.), БДУ (1930; вучыўся ў адзін час з А.Дударом, В.Кавалём, М.Зарэцкім, К.Крапівой, С.Куніцкім, А.Мардвілкам, С.Фаміным, А.Пальчэўскім, П.Шукайлам і інш.). З 1925 адказны сакратар часопіса «Беларускі піянер». З лета 1926 — рэдактар часопіса «Малады араты», потым рэдактар час. "Іскры Ільіча", сакратар час. "Асвета". Удзельнік 2-й суветнай вайны, паранены. З 1944 старшы рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР, з 1955 літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў БССР. Пахаваны на Усходніх могілках.

[29] **БАРАШКА Іллары** [Іларыён Мацвеевіч; 12(25).7.1905, Мінск — 3.6.1968, Масква], празаік, крытык, драматург, перакладчык. З сям'і рабочага. У пачатковай школе вучыўся гісторыі і геаграфіі ў Я.Маўра. З пачаткам 1-й сусветнай вайны разам з бацькамі ў бежанстве ў Ніжнім Ноўгарадзе. У 1916 сям'я вярнулася ў Мінск. У 1923 пачаў пісаць і друкавацца (час. "Малады араты"). З 1924 — адказны сакратар час. «Полымя». Далей працаваў рэдактарам час. «Малады араты» (1925 — лета 1926), нам. рэдактара газеты «Чырвоная змена» (1927—29), нам. рэдактара час. «Маладняк» (1929—31).

М.Гарэцкі ў 1928 пісаў: «*Ілары Барашка выйшаў з рабочага асяродзя і ёсць адным з тых маладых беларускіх пісьменнікаў, якія найбліжэй стаяць да Кастрычніка і найбольш выразна выяўляюць яго ў беларускай літаратуры. Галоўны матыў у яго творчасці — рэвалюцыйнае змаганне… за новы савецкі быт… Той-жа рэвалюцыйны матыў скрозь праходзіць у Барашкі і тады, калі ён дае схематычны агляд нядаўна мінулых гадоў…*»

У 1930 Б. скончыў БДУ, уступіў у ВКП(б). Член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1934. У 1938 скончыў сцэнарны ф-т Ленінградскай кінаакадэміі. З 1941 на фронце. Пасля вайны працаваў у Міністэрстве культуры СССР і РСФСР.

[30] **БАГДАНОВІЧ Ірына Эрнстаўна** [н. 30.4.1956, Ліда], паэтеса, літаратуразнаўца, крытык, педагог. З сям'і інжынераў. У дзяцінстве і юнацтве жыла з дзедам і бабуляй. Пасля сканчэння ў Гомелі СШ (1973) паступіла ў БДУ, потым у аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР. У 1985 абараніла кандыдатскую дысертацыю. Жыве ў Мінску.

[31] **ПЛАТОНАЎ Расціслаў Пятровіч** [15.4.1930, Слуцк — сак. 2001, Мінск], доктар гістарычных навук (1982), прафесар (1984). Скончыў БДУ (1955). Працаваў у друку, парт. органах, мінскіх ВНУ. У 1973—80 сакратар Мінскага абкама КПБ, у 1980—91 дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. З 1992 працаваў у Беларускім навукова-даследчым інстытуце дакументазнаўства і архіўнай справы. Памёр ад раку.

[32] **КРЫВІЧАНІН Леанід** [сапр.: Савёнак Леанід Вікенцевіч; іншы псеўданім: Л.Свэн; 26.6.1897, в. Вялец Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл. — 21.2.1974, Памон, ЗША], пісьменнік, журналіст. У 1917 скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Быў прызваны ў царскае войска, дзе знаходзіўся да снеж. 1917. Потым працаваў у Петраградзе. З 1922 у Мінску. Друкаваўся з першай паловы 1920-х. Па прапанове У.Ігнатоўскага да 1929 працаваў у газ. «Савецкая Беларусь». У 1929 апублікаваў зборнік фельетонаў «Чароўная іголка». У 1930 выйшла брашура Дж.Эйтана «Школа джэнтльменаў», перакладзеная з рускай К. З ліп. 1931 працаваў у навукова-тэхнічным выдавецтве. Арыштаваны ДПУ БССР 1.9.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Паводле пастановы Калегіі АДПУ ад 9.1.1934 асуджаны на 5 гадоў лагераў. Пасля вызвалення ў 1939 вярнуўся ў Беларусь; настаўнічаў на Крычаўшчыне. Падчас нямецкай акупацыі заставаўся ў Беларусі. Быў супрацоўнікам «Беларускай газэты». У 1944 пераехаў у Германію. Пасля вайны працаваў дырэктарам Беларускай гімназіі ў лагерах для перамешчаных асоб. Удзельнічаў у выданні літаратурнага час. «Сакавік», газ. «Бацькаўшчына» (Мюнхен). З 1950 у ЗША. Браў удзел у жыцці бел. эміграцыі. Рэабілітаваны 16.8.1956.

[33] **ІСАКОЎСКІ Міхаіл Васілевіч** [19.1.1900, в. Глотаўка Смаленскай губ., Расія — 20.7.1973, Масква], рускі і савецкі паэт. Аўтар тэкстаў да шэрагу вядомых савецкіх песень: «Катюша», «Враги сожгли родную хату», «В лесу прифронтовом», «Летят перелетные птицы», «Снова замерло всё до рассвета», «Каким ты был, таким ты и остался», «Ой, цветет калина». Герой Сацыялістычнай Працы (1970).

[34] **ТВАРДОЎСКІ Аляксандр Трыфанавіч** [1910, хут. Загор'е Смаленскай губ. — 1971], савецкі пісьменнік, паэт, рэдактар час. "Новый мир" (да лют. 1970), знака "шасцідзесятнікаў".

[35] **ОСІН Дзмітрый Дзмітрыевіч [**24.8.1906, Смаленск – 1983, Масква], савецкі паэт, празаік, журналіст, літаратурны крытык.

[36] **РЫЛЕНКАЎ Мікалай Іванавіч [**2(15).2.1909, в. Аляксееўка, цяпер Раслаўльскі р-н Смаленскай вобл. — 23.6.1969, Смаленск], рускі савецкі паэт.

[37] **СТАСЕВІЧ Барыс Іванавіч** [2(14).12.1895 (паводле іншых звестак, 1896), Брэст — 13.2.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], партыйны і дзяржаўны дзеяч. З бел. мяшчанскай сям'і. Вучыўся ў духоўнай семінарыі і БДУ. З 1914 у арміі, загадчык харчовага пункта ў Адэсе. З 1918 член РКП(б), у 1918—19 на падпольнай партыйнай рабоце ў Адэсе. З 1919 у Чырвонай арміі, удзельнік грамадзянскай вайны. З 1920 у Мінску: нам. начальніка аддзела губхарчкама, нам. наркама ўнутраных спраў БССР. Са снеж. 1922 сакратар Мінскага павятовага камітэта КП(б)Б, загадчык аддзела Слуцкага акруговага камітэта партыі. У маі 1924 — кастр. 1928 сакратар Аршанскага акругкама КП(б)Б. У вер. 1928 — вер. 1929 сакратар ЦК КП(б)Б. З вер. 1929 у Маскве: у Прафсаюзным інтэрнацыянале. Падчас арышту загадчык культаддзела Дарпрафсаюза чыгуначнікаў. Арыштаваны 21.7.1937 у Маскве па адрасе: Лявонцеўскі зав., д. 2а, кв. 7. Асуджаны 13.2.1938 «тройкай» НКВД за «ўдзел у шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 26.9.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—1.

[38] **КАНАКОЦІН А.** У 1931—34 узначальваў Зах. сектар Гістпарта пры ЦК КП(б)Б, які быў сфарміраваны з мэтай актывізацыі даследаванняў па гісторыі КПЗБ, рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі. У 1931 выдаў кніжку «Літаратура — зброя клясавай барацьбы» (Менск, 1931), пасля выхаду якой у Зах. Беларусі яго сталі клікаць бальшавіцкім «егермайстрам ад літаратуры».

[39] **ЯКАЎЛЕЎ Л.** (псеўданім). Н. у канцы XIX ст. у яўрэйскай сям'і. Удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі. Арыштоўваўся польскай дэфензівай. Памёр у канцы 1930-х г. (?).

[40] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

[41] **ПІЛЬНЯК Барыс Андрэевіч** (сапр.: Wogáу) (29.9(11.10).1894, Мажайск — 21.4.1938, Масква, “Камунарка”, НКВД], рускі пісьменнік. Арыштаваны 28.10.1937. Абвінавачваўся ва “ўдзелу ў контррэвалюцыйнай шпіёнскай арганізацыі”. Асуджаны 21.4.1938 да ВМП і расстраляны.

[42] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

[43] **МІКУЛІЧ Барыс Міхайлавіч** [6(19).8.1912, Бабруйск — 17.6.1954, с. Машукоўка Краснаярскага краю), празаік, крытык. Пачаў публікавацца з 1927 (час. «Маладняк»). З 1928 член бабруйскай філіі «Маладняка». З 1929 працаваў у бабруйскай газ. «Камуніст». У 1930 пераехаў у Мінск. Працаваў карэктарам у Дзяржвыдавецтве БССР; стыльрэдактарам, адказным сакратаром у газ. «Літаратура і мастацтва». Потым зноў вярнуўся у выдавецтва на пасаду рэдактара. У 1930 вучыўся на творчым аддзяленні МВПІ; у 1934—35 на літаратурных курсах у Маскве. Член СП Беларусі з 1934. У 1936 чытаў курс гісторыі літаратурных жанраў і гісторыі нарыса ў Інстытуце журналістыкі (Мінск). Да 1936 выдаў 7 мастацкіх кніг. Да арышту працаваў загадчыкам аддзела газ. «Літаратура і мастацтва». Арыштаваны 27.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Чырвоназорная, д. 7, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 5.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. У 1937 пераведзены ў Марыінск Новасібірскай вобл., у 1938 — у Рашоты Краснаярскага краю. У 1943 пераведзены ў катэгорыю ссыльных. Пасля вызвалення ў 1946 пераехаў у Ашхабад да старэйшай сястры Кацярыны, нягледзячы на тое што яму было забаронена жыць у сталіцах. У 1947 вярнуўся ў Беларусь. Жыў у Бабруйску, на Лагойшчыне. У 1947—49 працаваў у бабруйскай бібліятэцы. Звярнуўся да гістарычнай тэматыкі, падрыхтаваў аповесць пра М.Багдановіча. Актыўна пісаў, але ягоныя творы не публікаваліся. Арыштаваны паўторна 28.4.1949, высланы ў Сібір. Жыў у сяле Машукоўка Краснаярскага краю.

Ліст Б.Мікуліча (стыль і арфаграфія арыгіналу захоўваецца) *«В ЦК ВКП(Б) — тов. Сталину…*

*Первый вопрос, который мне задал следователь в апреле 1949 г. был такой: Почему в 1937 г. я стал на путь сокрытия своей к/р. деятельности? Лениво перебирая пожелтевшие листы старого дела, следователь понял, что ничего иного задать он не может. Да, дело 1937 г. по обвинению меня в принадлежности к к/р. писательской организации в Белоруссии, по которому Спецколлегия Верховного Суда БССР приговорила меня к 10 годам*

*лагерей от начала до конца было блефом. Сотни раз я об этом писал* (і яшчэ неаднойчы Б.Мікуліч будзе спрабаваць прабіць сцяну бязмоўнасці. — ***Л. М***.), *говорил. В канун войны я получил сообщение прокуратуры БССР о том, что дело мое подлежит рассмотрению, но грянула война и все приостановилось. В 1947 году я возвратился на родину, в Белоруссию. Товарищи по былой моей профессии — белорусские писатели — встретили меня тепло. Я получил скромную, но симпатичную работу в Бобруйской городской библиотеке, лекционное бюро привлекло меня к чтению лекций (отзывы об этой работе я храню и по сей день). При поддержке т. Пономаренко, к которому я обратился с письмом, меня снова начали печатать, — за два года я успел опубликовать несколько статей, ведущий журнал в Белорусии "Полымя" принял к печати мою повесть.*

*Наивысшей точкой морального моего удовлетворения было то, что Президиум Верховного Совета БССР 1 ноября 1947 г. вынес решение о снятии с меня судимости. Опасение, что мое прошлое мне будет мешать жить и работать, растаяло как дым. Полный удвоенной энергии я начал работать, убедившись, что — пусть поздно, но справедливость восторжествовала. И вдруг новый арест, старые листы выдуманного дела, явное замешательство следователя, шестимесячная отсидка в тюрьме, мучительный этап — и вот я в Красноярском крае, в Тасеевском районе, в поселке Машуковка бьюсь как рыба об лед, чтобы прокормить себя, жену и сына. Физически работать я не могу (подорвано здоровье), на культработе меня не используют (ссыльный), даже жена, работавшая 7 лет в этой глуши учительницей, была поставлена местными ортодоксами в такие условия, что лишилась работы. Несправедливо.*

*Ни одной строкой книг и статей моих, которые и теперь ходят по рукам в Белоруссии, ни единым дыханием своим, ни единым поступком я не виноват перед Сов. властью, перед своим народам. Дважды я честно пытался работать на благо его — до первого ареста и до высылки на поселение в Красноярский край — и дважды меня били по рукам. Первый раз — я знаю — враги народа сделали меня контрреволюционером. А второй? Думается мне, что в решениях Особого совещания превалирует стандартный подход.*

*Вот уже десяток раз я просил — пересмотрите дело, дайте возможность хотя бы по-человечески жить мне, моей семье. Или молчание или отказ. Я уверен в своей правоте и поэтому до последнего своего дыхания буду добиваться истины. Невиновен — вот эта истина.*

*P.S. Так или почти так я писал сто один раз. Так я думаю и сейчас. Так я буду думать и писать до последнего своего вздоха.*

*10.5.1951 г. Б.Микулич».*

Рэабілітавалі М. праз тры месяцы пасля смерці 29.12.1954.

*«…Бягу ў домік на беразе Тасеевай рэчкі. Але што ж гэта? Пустая кватэра. Дзверы адчынены. У сенечках усхапіўся схуднелы сабака…*

*Сустракаю вартаўніка, з якім пазнаёміўся пазалетась. Ён вядзе мяне ў невялічкі сасоннічак на магілу Мікуліча. Стары з горкім смуткам расказвае, што Барыс памёр раптоўна, над рукапісам...»* (Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968).

*«Определение.*

*23 сентября 1955 г. Судебная коллегия по уголовным делам Верховного суда БССР (...) определила:*

*— Постановление Особого совещания при МББ СССР от 3 сентября 1949 г. о ссылке Микулича Б.М. на поселение в Красноярский край отменить и дело в этой части дальнейшим производством прекратить.*

*Микулича Б.М. от ссылки на поселение освободить* (нябожчыка вызваляюць ад «ссылки на поселение». — ***Л. М.***)».

Асабовая справа М. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Таксама ў Бабруйску нарадзіўся **ВАЛЬФСОН Сямён Якаўлевіч** [27.5(8.6).1894, Бабруйск — 1941, Мінск], літаратуразнавец, філосаф, празаік, педагог. У 1919 скончыў Кіеўскі ун-т. З 1921 выкладаў у БДУ, атрымаў званне прафесара. З 1931 — дырэктар Інстытута філасофіі і права АН Беларусі, акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук АН БССР.

*«Калі ў 1937—1938 гг. С.Вальфсону пагражала небяспека, знаёмыя лекары схавалі яго ў бальніцы для ссіхічна хворых, дзе ён напісаў раман «У матрацнай магіле»* (І.Багдановіч).




Вальфсон С. Я.

44 **КУЛЯШОЎ Аркадзь Аляксандравіч** [24.1(6.2).1914, мяст. Саматэвічы Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 4.2.1978, Нясвіж, пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках], народны паэт Беларусі (1968). З сям'і вясковых настаўнікаў. Скончыў сямігодку ў родным мястэчку. У 1928—30 разам з З.Астапенкам, З.Піваваравым, Г.Сапрыкай, Ю.Таўбіным вучыўся ў Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме. У 1931 паступіў у МВПІ.

*«Нядаўна набыў «Выбранае» Бабеля. Хачу паглядзець, чым некалі захапляўся, — кажу я* (Я.Скрыган. — ***Л. М***.).

*— Дарэмна і захапляўся. Не люблю я паэтычнай прозы. Манернасць. Проза павінна быць простай… Дарэмна траціш час* (сказаў А.Куляшоў. — ***Л. М***.).

*Вось як?… Я чуў, што ў грудзях мне робіцца цесна, што дыханне мне спірае даўкі камяк абурэння і крыўды… гавару:*

*— Паэтычная проза — гэта не грэх… Куды горш — празаічная паэзія!*

*— Што ты маеш на ўвазе?*

*— А хоць бы і твой «Аманал»!»* (Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990).

*«В домике на «Поэтической улице» встретился я впервые и с Алесем Кучером. Среди поэтов он больше всего был привязан к Аркадию, тот тоже тянулся к Кучеру… с интересом прислушиваясь к его суждениям».* (З арт. А.Зарыцкага «Жили-были поэты». Неман. 1986. № 2).

З арт. В.Маракова «Пра паэзію» (ЛіМ. 1933. 26 чэрв.):

*“Зарыцкі* (Алесь Зарыцкі аб сваіх вершах 1920—30 гадоў у аўтабіяграфіі пісаў: «Мае вершы мне не падабаліся. Усе яны здаваліся слабымі і бледнымі. І я амаль зусім кінуў пісаць…». — ***Л. М***.) *і Куляшоў пішуць звычайнай рыфмаванай прозай. “А ты, Чырка, жаўтароты варабей, Цыц! Я яшчэ з тваім дзедам у адной лазні мыўся. Не тое, каб мы былі з ім прыяцелямі, не любіў я твайго дзеда. Дужа ён не падобны быў да цябе: чыркае, чыркае, а сілы няма…” Вось вам прыклад з “вершаванага” твора Куляшова “Аманал”. Я не ведаю — каму гэта можна ўбіць у галаву, што вышэйпададзеныя радкі з’яўляюцца вершаванымі, або больш таго — паэтычнымі радкамі? А гэткае ж з’явішча мы маем на кожнай староцы».*

З арт. П.Броўкі «У пошуках паэзіі» (ЛіМ. 6 верас. 1933):

*«Аркадзь Куляшоў — як ужо казалі, хварэе на празаічнасць і часамі проста разбурае паэтычную спецыфіку. Гэта можна прасачыць па ягонай паэме «Аманал». І зноў жа, калі ўзяць аднастайнасць памеру, дык варта прыгадаць ягоную паэму «Крыўда». Гэта суцэльная аднастайнасць, суцэльны памер «калікаў перахожых», якая дашчэнту зніжае паэтычную якасць».*

У 1934 С.Шушкевіч напісаў на А.Куляшова наступную эпіграму:

*Ад «Аманалу» грымнуў выбух,*
*І градам сыпнуў «Медзі дождж»,*
*Але ў Парнасе цэлай шыба*
*Па сёння засталася ўсё ж.*

*«В 1935 Аркадий познакомил меня со своей невестой — Оксаной Вечер, двоюродной сестрой поэта Алеся Вечера и золовкой Платона Галавача»* (З арт. А.Зарыцкага «Жили-были поэты». Неман. 1986. № 2).

*«У апошнія месяцы жыцця бацька неаднойчы скардзіўся маці на лёс, маючы на ўвазе блізкіх:*

*— Пра мяне, відаць, не будзе каму напісаць…»* (В.Куляшова).

[45] **ЛІСТАПАД Юрый** (Георгій) **Іванавіч** [крас. 1897, в. Варкавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 5.7.1938, Бамлаг], паліт. дзеяч, публіцыст. З бел. сялянскай сям'і. У 1914 скончыў Панявежскую настаўніцкую семінарыю. Настаўнічаў на Случчыне і ў Слуцку. Член Беларускай Рады Случчыны; удзельнік Слуцкага збройнага чыну 1920. Выехаў у Польшчу. У 1922 вярнуўся ў Слуцк. Настаўнічаў, выкладаў на Слуцкіх агульнаадукацыйных курсах. У сярэдзіне 1920-х г. працаваў стыльрэдактарам Дзяржвыдавецтва БССР. Арыштаваны ДПУ БССР 22.10.1925; у сак. 1926 асуджаны на 5 гадоў турэмнага зняволення. Вызвалены ў ліст. 1927. Зноў арыштаваны летам 1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; вызвалены праз некалькі месяцаў. У ліп. 1933 перасяліўся ў Ржэў. Падчас трэцяга арышту (28.10.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра») працаваў рахункаводам Ржэўскага збожжанарыхтоўчага пункта (Калінінская вобл.). Быў жанаты, меў дзіця. Асуджаны 9.1.1934 калегіяй АДПУ як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Байкала-Амурскі канцлагер АДПУ Далёкаўсходняга краю (Свабодны). Паводзіў сябе там непакорліва і ў жн. 1935 на яго была заведзена крымінальная справа. 31.3.1938 лагернай тройкай НКВД прыгавораны за «антысавецкую агітацыю сярод зняволеных» да ВМП. Па прысудах 1934 і 1938 рэабілітаваны ў 1956. Групавая справа Л. і інш. (№ 10182-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) спынена 16.8.1956 пастановай КДБ БССР.

23.4.1933 у Слуцку па адрасе: вул. Валадарскага, д. 88 быў арыштаваны аграном Слуцкай міжраённай насенняводчай канторы, бацька траіх дзяцей, Лістапад Пётр Іванавіч (н. у 1898 у в. Варкавічы Слуцкага пав.), верагодна, брат Юрыя Лістапада. 8.5.1933 калегіяй АДПУ ён быў асуджаны як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 3 гадоў высылкі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 16.7.1958 трыбуналам БВА. Групавая справа Л. і інш. № 11070-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[46] **ЛЫНЬКОЎ Міхась** [Міхаіл Ціханавіч; 18(30).1.1899, в. Зазыбы Віцебскага пав., цяпер Лёзненскі р-н Віцебскай вобл. — 21.9.1975, Мінск], народны пісьменнік Беларусі (1962). Скончыў пачатковую школу і настаўніцкую семінарыю ў Рагачове (1917). Служыў у Чырвонай арміі (1919—22). Пасля дэмабілізацыі працаваў настаўнікам у школе ў мяст. Свержань Рагачоўскага р-на. З 1925 супрацоўнік, з 1928 рэдактар бабруйскай газ. «Камуніст». Член ВКП(б) з 1926. У 1927 выйшла першая кніга прозы Л. "Апавяданні". М.Гарэцкі пра яе пісаў: *"У мове Лынькова шмат расіянізмаў і неўласцівых народнай і беларускай мове дзеепрыметнікаў".* У 1934—41 галоўны рэдактар час. "Полымя рэвалюцыі". У 1938—48 старшыня праўлення

СП Беларусі. У 1943—46, 1949—52 дырэктар Інстытута літаратуры, мовы і мастацтвазнаўства АН БССР, дэпутат Вярхоўнага савета БССР (1940—75).

[47] Недзе ў гэты ж час на заводзе «Бальшавік» працаваў рабочым **ДЗЯГЦЯР Мота Ізрайлевіч** [2(15).7.1909, в. Пціч Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер Гомельская вобл. — 9.11.1939, мяжа Расіі і Фінляндыі], празаік. З сям'і шаўца. З 1929 жыў у Мінску. Працаваў рабочым. Вычыўся ў МВПІ (скончыў у 1937). Служыў у Чырвонай арміі.

[48] **КЛІМКОВІЧ Міхась** [Міхаіл Мікалаевіч; 8(20).11.1954, в. Сялітранікі Барысаўскага пав. Мінскай губ. — 5.11.1954, Мінск], партыйны і літаратурны работнік, бацька пісьменніцы С.Клімковіч, дзед пісьменніка М.Клімковіча. Пасля сканчэння Барысаўскага гарадскога вучылішча (1915), да 1921 працаваў настаўнікам. У 1921—23 у Чырвонай арміі. З 1924 сакратар райкама партыі ў Плешчаніцах. З 1929 загадчык культаддзела Цэнтральнага савета прафсаюзаў БССР. У 1934—39 старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. У 1935—37 па запыце НКВД напісаў шэраг адмоўных характарыстык на бел. пісьменнікаў, чым па сутнасці падпісаў ім смяротны прысуд.


Клімковіч М. М.

Вытрымка з характарыстыкі В.Маракова для НКВД (сак. 1935 г., падпісана старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў БССР М.Клімковічам):

*"Основная линия его поэзии – мещанское воспевание любви. Мещанские "романсы", луна, соловей, любимая девушка, розы, синее небо, васильки – вот атрибуты его поэзии. Рядом с этой тематикой прорывается националистическое восхищение Беларусью, неудовлетворенность проводимой партией*

*национальной политикой (пример – стихи, посвященные Калиновскому, – журн. "Полымя", № 7 за 1928 г., стихи "Беларусі" // Полымя. № 10, 1928 г.), упадничество ("За чужое счастье и любовь" // Полымя. 1928).*

*Белорусская нацдемовская критика выдвигала Морякова как весьма способного поэта (см. книгу М.Горецкого "5 лет "Молодняка". 1928 г.).*

*Разгром нацдемовщины и арест близких друзей Морякова, видимо, заставил его отойти от прямых хвалебных од нацдемизму к большей маскировке: он начал опевать богему, по-кулацки показывать наши заводы, нашу действительность (см. его изъятую книгу "Права на зброю"). Разоблачение этого маневра, видимо, заставило Морякова несколько призадуматься: он дал ряд неплохих стихов, обещая перестроиться и стать действительно советским поэтом. Такое обещание он давал на общем собрании писателей, когда обсуждали в числе прочих вопросов его книжку – "Права на зброю".*

*Второй раз вопрос о Морякове стал осенью 1933 г., когда он обозвал ГосИЗДАТ БССР "деникинским учреждением" (о чем рассказал на правлении тов. Зарембовский). Моряков заявил на президиуме, что он говорил не о ГосИЗДАТе, а о тов. Бэндэ, который, дескать, проявил к нему отношение "деникинского офицера". Зная грубость тов. Бэндэ по отношению к писателям, Правление Союза ограничилось решительным осуждением поступка Морякова и предупредило его о недопустимости подобного поведения в дальнейшем.*

*Во время обсуждения вороса о богеме Правление Союза правильно связало этот вопрос с националистическим характером богемы. В итоге этого обсуждения Моряков был исключен из союза..."*

Падчас 2-й сусветнай вайны (да 1943) К. заставаўся на акупаванай тэрыторыі. З 1943 галоўны рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР, з 1947 літкансультант Саюза пісьменнікаў БССР.

49 **ЛЕВІН Саламон Вульфавіч** [жн. 1912, пас. Ратамка Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 29.10.1937, Мінск, НКВД], крытык. Паводле некаторых звестак вучобу ў МВПІ (1931—34) сумяшчаў з работай на кніжнай базе, дзе нейкі час працаваў разам з П.Пруднікавым, якога ён туды і ўладкаваў. Блізкі сябар літаратурнага крытыка П.Хатулёва. Да арышту выкладаў літаратуру ў СШ. Арыштаваны 13.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 9, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда СССР 29.11.1989. Асабовая справа Л. № 28720-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

50 **ПАСЛЯДОВІЧ Макар Трафімавіч** [8(21).8.1906, в. Караваева Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 30.12.1984, Мінск], пісьменнік. З сям'і чыгуначніка. Скончыў сямігодку, працаваў у газ. "Беларуская вёска"; адначасова вучыўся на падрыхтоўчых курсах для паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову. З 1935 адказны сакратар час. "Полымя рэвалюцыі". Падчас 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. У 1943 вывезены ў Германію. Пасля вызвалення вярнуўся на радзіму, працаваў у газ. "Звязда". З 1949 на творчай працы. Пахаваны на Чыжоўскіх могілках.

51 **КУЧАР Алесь** (Айзік Евелевіч) [27.6.1910, в. Прудзішчы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Смалявіцкі р-н Мінскай вобл. — ліп. 1998, Мінск], літаратурны крытык. З сям'і прыказчыка па лесасплаве.

Восенню далёкага "нэпаўскага" 1927 года ў мінскім Белпедтэхнікуме, які ў розныя гады называлі то царскасельскім ліцэем, то кублом і рассаднікам нацдэмаў, пачаў вучыцца выпускнік Лагойскай сямігодкі, "хлопец з мглёўскага балота" (так пра яго скажуць пазней, увекавечыўшы вёску з унікальнай для Беларусі назваю Мглё), па-свойму даволі разумны яўрэйскі хлопчык з гучным іменем Айзік. Праўда, першая спроба паступіць, здаючы нароўні з усімі экзамены і нават пасылаючы на іх замест сябе сяброў, праваліласся. Рашэнне паплакацца ў райкаме камсамола нечакана сталася выратавальным. Айзік быў залічаны на першы курс. Неўзабаве "падазронае" імя было зменена на "народнае" — Алесь, а яшчэ праз некалькі гадоў Айзік-Алесь стаў літаратурным кансультантам НКВД, склаўшы вартую кампанію небезвядомым Лукашу Бэндэ, Міхасю Клімковічу і некаторым іншым "байцам нябачнага фронту".



Кучар А. Е. (справа) з невядомым.

На запыт УГБ па даручэнні кіраўніка Саюза пісьменнікаў ад 20 мая 1935 г. А. Кучар напісаў характарыстыку "О творчестве Валерия Морякова":

*"Белорусские буржуазные контрреволюционные националисты одним из оружий борьбы против советской власти избрали богему, богемский разврат и вырождение, упадничество и разложение. В этом смысле пьяная, разухабистая богема, упадничество, пессимизм, как в жизни, так и в творчестве, являлись оружием в руках буржуазных националистов в их борьбе против пролетарской революции.*

*В. Моряков является наиболее ярким представителем богемско-упаднического отряда буржуазного национализма в белорусской литературе. Моряков исповедует в своем творчестве общие для всех буржуазных националистов идеи, однако, оттененные богемским упадничеством. Явно контрреволюционные нацдемовские произведения вроде "Беларусі", "Чуеш, Беларусь" (Кастусю Калиновскому), "Рахунак паэта, пададзены да аплаты", "Фабрыка Дзвіна", "Мая паэма" чередуются у него с есенинско-упадническими стихами, выражающими безнадежность и неверие поэта. Обратимся к раннему творчеству В.Морякова (1926—29 гг.), и мы увидим, что в первую очередь Моряков — белорусский нацдем и именно отсюда у него начинается упаднический, богемский разлад с действительностью. Советская действительность ему чужда, враждебна. Отсюда неверие ни во что, ни в какие перспективы, отсюда пессимизм. Линия упадничества, пьяной богемы идёт через все три сборника Морякова, а также через "Мою поэму". В сборниках "Пялёсткі", "На залатым пакосе", "Вяршыні жаданняў" всюду пьяный разухабистый и безнадежный пессимизм:*

І так моцна, так глуха галосіць душа,
І на сэрца з трывогай кладзецца рука.

*Этот лейтмотив проходит через все стихи Морякова. А в "Моей поэме" мотив этот выражен еще более ярко:*

Я стаміўся, прыціх, я не знаю:
Недзе вецер спраўляе магільны разгул,
І так хочацца зноў упівацца далёкім,
І ў азёрах душы захаваць чорнай восень.

*Чего же тоскует и мечется Моряков? Это легко объяснить из содержания его же стихов. Видите ли, он недоволен*

*существующим положением дел в Советской Белоруссии (он хотел бы ее видеть буржуазно-националистической республикой), недоволен классовой борьбой, которую ведет пролетариат против белорусской буржуазии. Он не может видеть того, как*

Брат душыць брата сваімі рукамі.

*В той же поэме он говорит, что самогон ему уже надоел, и надо "защищать свой край". В сборнике "Пялёсткі" он слово "айчына" пишет всюду с большой буквы, как и подобает националисту. При пролетарской диктатуре в БССР он не видит "вольным свой народ", а потому еще надеется на освобождение его, и тогда его народ заплачет от радости:*

То праплача мой родны, мой любы народ,
Праліе свае слёзы ад шчасця,
І на вольным прасторы шырокіх дуброў
Ўсё мінулае ў песні пагасне.

*А пока что в советской республике Моряков потому ноет и мечется, что:*

Ты і я сягоння будзем пець і жыць,
Хоць парой пад горлам зіхацяць нажы.

*Вот что заставляет Морякова с буржуазно-националистических позиций показывать нашу действительность, и потому он в антисоветском порыве пишет:*

І хачу так, як гэты месяц залаты,
Стаяць і старажыць сваю краіну.

*Моряков пишет, что он готов даже "зубамі каменні ламаць", лишь бы видеть свободной свою страну. Что это за свобода, нам хорошо известно из творческой практики Морякова, так же, как и других националистов. Это Беларусь нацдемовская, ее славит и любуется ею Моряков. Моряков говорит, что "усё наш народ гэта знёс" — это значит тяжесть "господства русских", но "досыць толькі ўзняць смелы шум", как все должно измениться. О нашей действительности он говорит, что живет "у цемры бруднай, пад прымусам". Не видя вольным "свой край" при советской власти, Моряков пишет, что готов жизнь отдать, "каб толькі бачыць радаснай краіну". В другом стихотворении он*

*совершенно открыто заявляет, что в советской Белоруссии не нашел того, чего искал, к чему стремился:*

Чаго ж тады я верыў і імкнуўся,
Чаго я пеў, чаго хварэў душой,
Ў палях шырокіх роднай Беларусі
Каго шукаў, таго я не знайшоў.

*Но особенно ярко белорусский буржуазный контрреволюционный национализм выявился в произведениях В.Морякова "Чуеш, Беларусь" и "Беларусі". Кастусь Калиновский объявляется в стихе "Чуеш, Беларусь" идейным вождем современной Белоруссии. Причем нацдем Моряков прямо заявляет, что нынешняя Беларусь не слышит слов своего вождя Калиновского и с истерикой в голосе призывает нынешнюю Беларусь идти по стопам своего "вождя". Вот что он пишет:*

О Беларусь! Ці чуеш ты, ці чуеш?
Твой лепшы сын распяты за цябе.
Няўжо ў грудзях тваіх начуе
Яго вялікіх дум разбег?
О, мабыць, не!

*Это яркий контрреволюционный протест против пролетарской диктатуры в советской Белоруссии и призыв к восстановлению нацдемовской Беларуси Калиновского.*

*В стихе "Беларусі" контрреволюционный призыв еще ярче. Моряков говорит, что он поднял, как знамя, дело освобождения Белоруссии.*

І з любоўю таварыша, друга і сына
Я аддаўся табе ўсёй душой.
Я паверыў у здольнасць вялікай Айчыны
Й пакланіцца у ногі к табе я прыйшоў.

*Дальше идет следующее:*

Хай скрыгочуць здраднікі Айчыны.
……………………………………
І ў агні палаючых паўстанняў
Край рука чужая не кране.

*Тут уже Моряков прямо говорит, что он будет защищать Беларусь "в огне будущих восстаний". Имея в виду*

*общенационалистическое содержание этих стихов, нельзя, конечно, думать, чтобы Моряков тут вызывался защищать советскую Беларусь.*

*Цитированные выше стихи относятся к 1927—1928 гг.*

*Но вот в сборнике "Права на зброю", печатавшемся в БелР... (апошнія літары не чытаюцца — **Л. М**.) в 1933 г., мы тоже имеем буржуазно-националистические, враждебные нам стихи. Моряков проповедует в этом сборнике нацдемовскую теорию надклассовости искусства: Любоў і паэзія ідуць праз вякі, — пишет Моряков. В этом сборнике Моряков с кулацких позиций изображает завод. В стихе "Вынаходніцтва майго сябра Капусціна" завод выглядит так: "На вокны і сцены кладзецца дым, а на сэрца — серная руда, вочы пачынаюць слязіцца", дальше идет авария и искалеченный рабочий. Или в другом стихе фабрика выглядит так:*

Фабрыка ўзніме жалезную лапу…
Да жахлівасці жорсткае цела станка
І будзе працягла па-воўчаму выць.

*Так кулак воспринимает советскую фабрику.*

*На заводе Моряков видит исключительно аварии и самоубийства. О самоубийстве работницы Кати на Осиновской электростанции Моряков написал враждебное нам стихотворение "Рахунак паэта, пададзены да аплаты". В этом стихотворении Моряков не то бюрократов, не то советскую власть поучает так:*

Чалавек — гэта вам не мумія,
Узяў са склепу і выштурхнуў вон.
Чалавек — гэта сад з залатымі думамі,
Дзе па жылах праходзіць блакітны агонь.

*В стихе "М.Лынькову" Моряков снова обвиняет общественность, советскую власть, что его, богемщика, не сберегли:*

Сябе не ўмелі зберагчы,
І зберагчы не ўмелі нас,
І пра юнацтва ты маўчы.

*Таким образом, перед нами творческое лицо Морякова. Моряков на протяжении своего творческого пути исповедовал буржуазно-националистические, кулацкие взгляды. Эти взгляды теснейшим образом переплетались у него с пьяной богемой и упадничеством, с враждебным отношением к фабрике, заводу, индустриализации советской Белоруссии, с*

*клеветническими обвинениями по адресу советской власти, что она не бережет и не заботится о рабочих так же, как и об интеллигенции, в том числе интеллигенции художественной. Если в последнее время Моряков вынужден был несколько маскировать свои взгляды, то в 1928 году он прямо заявлял, что будет бороться за буржуазно-националистическую Беларусь Калиновского..."*

52 **МОДЭЛЬ Міхась** [31.3(13.4).1904, мяст. Камень Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Лепельскі р-н Віцебскай вобл. — 26.10.1980, Мінск], крытык, тэатразнавец. З сям'і адваката. Скончыў у Лепелі школу 2-й ступені (1921), пераехаў у Мінск. Вучыўся на медычным (да 1924) і педагагічным (да 1926) ф-тах БДУ, уступіў у ВКП(б) (1922). З 1927 дырэктар Цэнтральнага партыйнага клуба. З 1932 навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР, адначасова нам. галоўнага рэдактара газ. «ЛіМ». З 1940 адказны сакратар Саюза пісьменнікаў БССР. Падчас 2-й сусветнай вайны жыў у Тамбове, Узбекскай ССР. У 1944—48 загадчык літаратурнай часткі тэатра оперы і балета ў Мінску.

*«У перыяд кампаніі па барацьбе супраць касмапалітызму (канец 1940-х г.) падвяргаўся крытычным нападкам у прэсе, з-за чаго ў 1940—50 нідзе не друкаваўся»* (І.Багдановіч).

Пахаваны на Чыжоўскіх могілках.

53 **БАГУН Міхась** [сапр. Блошкін Міхаіл Фёдаравіч; 9.11.1908, Мінск — 17.2.1938], паэт, празаік, перакладчык. З сям'і службоўца. Пачаў друкавацца ў 1925; у сваёй рамантычнай творчасці адгукаўся на падзеі ў краіне. Асаблівы ўплыў на яго аказала паэзія У.Маякоўскага. У 1928 скончыў курсы пры МБПТ; настаўнічаў у в. Рожна Бягомльскага р-на. У 1929 у час. «Беларусь Калгасная» (адказным сакратаром быў С Баранавых) надрукаваў аповед, у якім шкадаваў аб высылцы «кулака». Тады ж і трапіў упершыню ў поле зроку НКВД. У 1931—32 супрацоўнічаў з газ. «Чырвоная Полаччына». У 1932 вярнуўся ў Мінск, дзе працаваў стыльрэдактарам Белдзяржвыдавецтва. У 1935—36 літсупрацоўнік газ. «Літаратура і мастацтва». Некаторыя яго вершы, пакладзеныя на музыку, шырока вядомыя ў народзе, увайшлі ў фалькорныя запісы.

*«Яго невысокая, зграбнага крою постаць, нейкая размеранасць рухаў, — відаць, след ад настаўніцкай манеры трымацца ў класе, — мілая і ясная ўсмешка бясхітраснага, задушэўнага чалавека і добрага сябра. Ён быў прыгожы, Міхась Багун: густыя шатэністыя валасы, правільны авал мілавіднага твару, на якім то блукала мяккая ўсмешка, то клаліся цені задуменнасці і нейкай гаркоты — відаць, ад пражытага цяжкага дзяцінства. Глыбока пасаджаныя карыя вочы то асвятлялі твар іскрынкамі гумару, вясёласці, ня злоснай жартаўлівасці, то рабіліся цёмныя, сумнаватыя, нібы скіроўвалі позірк далёка за даляглады навакольнага свету»* (Звонак А. Неспакойныя сэрцы. Мн., 1973).




Багун М. Здымак зроблены ў 1936 у Мінскай унутранай турме НКВД.

Арыштаваны 4.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Маляўшчынская, д. 11, кв. 2. Асуджаны тройкай НКВД 5.10.1937 за «прыналежнасць да антысавецкай нацдэмаўскай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Знясілены і хворы, памёр у перасыльным лагерным пункце. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР 29.12.1954. Асабовая справа Б. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

*«Аднойчы ў перапоўненай халоднай «перасылцы» лагернага пункта зусім знясілены Міхась Багун папрасіў расшпіліць гузік яго скуранай курткі. З падкладкі ён дастаў дрыготкімі пальцамі маленькі значок з партрэтам Леніна і слабым голасам прашаптаў: «А Леніна не адабралі. Ён з намі...» Праз некалькі дзён М.Багуна не стала»* (Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968).

*«Пад гукі «Як умру, то пахавайтэ» на руках Звонака і Мікуліча памёр малады беларускі паэт Міхась Багун»* (Сяднёў М. Масеева кніга. Мн., 1994. С. 231).

[54] **ГВЕТАДЗЕ Раждэжан Мацвеевіч** [28.7(9.8).1897, с. Ціхіа, Грузія — 1.12.1952, Тбілісі], грузінскі савецкі пісьменнік. Напісаў аповесці: «Тео» (1930), «Костёр» (1932), «Лашаурские вечера» (1934), «Белорусские новеллы» (1935), «Жизнь начинается сначала» (1949) і інш.

[55] **ХАРЫК Ізі** [Ісаак Давыдавіч; псеўданім: А.С.Зембін; 6.3.1896, па іншых крыніцах, 17.3.1898, мяст. Зембін Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], паэт. У 1916—23 член арганізацыі «Паалей-Цыён». У 1919 добраахвотна ўступіў у Чырвоную армію, удзельнічаў у грамадзянскай вайне ў Расіі. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1920 публікацыямі ў яўрэйскіх газетах. У 1921—23 вучыўся ў Вышэйшым літаратурным інстытуце імя В.Брусава ў Маскве. У 1922 у

Мінску выйшла першая кніжка вершаў «Трапятанне». З 1925 друкаваўся ў час. «Штэрн». У 1927 скончыў яўрэйскае аддзяленне педагагічнага ф-та 2-га Маскоўскага дзяржаўнага ун-та. Пераехаў у Мінск, працаваў рэдактарам яўрэйскага час. «Штэрн». У 1931 абраны членам ЦВК БССР. Член СП Беларусі з 1934. Член прэзідыумаў СП БССР і СССР. Да 1936 у Мінску, Маскве і Кіеве выйшла 13 яго кніг на яўрэйскай мове. З 1928 сталі з'яўляцца пераклады яго вершаў на бел. мову. З пачатку 1930-х г. выступаў з артыкуламі і нарысамі таксама ў беларускамоўных выданнях. Вершы «Над Бярозай» і «Хлеб» былі пакладзены на музыку С.Палонскім.

*«Я ніколі не забуду той атмасферы давер'я, любві і пашаны, якая адразу ж устанавілася между паэтам і яго слухачамі. Ізі Харык чытаў многа, з вялікім уздымам. Яго гучны, выразны голас з пявучай інтанацыяй, запал, аптымізм і публіцыстычная вастрыня вершаў літаральна зачаравалі вучняў* (Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. — ***Л. М***.). *Твары іх гарэлі, вочы блішчалі. Яны гатовы былі слухаць яго бясконца… Фізічна моцны, з энергічнымі рысамі твару і пышнай чорнай чупрынай, ён быў увасабленнем жыццярадасці…»* (аўрук Ю. Ступень адказнасці. Мн., 1986).

Перакладаў на яўрэйскую мову творы Я.Коласа, М.Чарота, З.Рымашэўскага. У 1935 узнагароджаны Ганаровай граматай БССР. Член-карэспандэнт БелАН з 1936. Адзін з аўтараў «Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну» (1936).



Харык І.

Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Савецкая, Дом спецыялістаў. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член трацкісцка-зіноўеўскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.6.1956. Асабовая справа Х. № 6870-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148, кв. 52 арыштавана хатняя гаспадыня, маці дваіх дзяцей, Дзіна Звулаўна Харык (н. у 1911

у Бабруйску), жонка Ізі Харыка. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД СССР асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР (Акмолінск). Вызвалена ў 1946. Вярнулася на радзіму. Рэабілітавана 14.8.1956. Асабовая справа Х. № 6846-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

56 **ГЕЙНЭ Генрых** [*Heinrich Heine*; 13.12.1797, Дзюсельдорф — 17.2.1856, Парыж], славуты нямецкі паэт, публіцыст, крытык**.**

57 **ГЁТЭ Іаган Вольфганг фон** [*Johann Wolfgang von Goethe*; 28.8.1749, Франкфурт-на-Майне, Нямеччына — 22.3.1832, Веймар, Нямеччына], нямецкі паэт, дзяржаўны дзеяч, мысляр і прыродазнавец.